ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ
ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 34 (2488) 22 жніўня 1996 г.

Выдаецца з 1955 г. Цана 1000 рублёў.

УРАДЖАЙ-96



У разгары жніво. Калгас "Беларусь" Жабінкаўскага раёна не назавеш багатым. Чатыры мільярды даўгоў пакінуў ранейшы старшыня свайму пераемніку Міхаілу Турчыку, але гэты малады прадпрымальны чалавек за пяць месяцаў работы змог згуртаваць вакол сябе людзей. Яны ж і адрамантавалі, і прывялі ў гатоўнасць усю тэхніку, якая цяпер занята на корманарыхтоўцы і ўборцы ўраджаю. Уборку збожжавых калгас пачаў адным з першых у Жабінкаўскім раёне. На хлебныя палі выйшлі дзевяць калгасных камбайнаў. Круглыя суткі працуюць зернятокі. На дапамогу паклікалі школьнікаў і пенсіянераў.

НА ЗДЫМКУ: на калгасным зернятоку.

Фота Рамана КАБЯКА.

ПАРАЛЕЛІ

## НА РАКАВЫМ ПАРОЗЕ

**57 гадоў прайшло з таго дня, як быў заключаны пакт аб ненападзенні паміж СССР і Германіяй. Розныя ацэнкі даюць гісторыкі і палітыкі гэтаму дакументу. На думку адных, ён быў непазбежны для Савецкага Саюза і прадстаўляў буйную дыпламатычную перамогу, іншыя лічаць, што ён адкрыў шлях Гітлеру да сусветнай вайны, а СССР у рэшце рэшт не атрымаў ніякай выгады ад адтэрміноўкі нямецкага нападу. Ёсць і меркаванні аб нявыкарыстаных шансах у справе дагаворанасці з заходнімі краінамі ці пазіцыі нейтралітэту...**

У палітыцы не бывае дробязяў. Гэта пацвердзіў эпізод з далёкай дыпламатычнай практыкі, калі ў Берліне быў наладжаны навагодні прыём дыпламатычнага корпуса. У трыццаць дзявятым годзе на ўсіх важных дакументах Германіі абавязкова ўказвалася — "Новая імперская канцылярыя". У гэтым вялікім і даволі багата аздобленым будынку і адбыўся прыём.

Гасцей прымаў сам Адольф Гітлер. Як звычайна, згодна з этыкетам, ён па чарзе паціскаў руку дыпламатам, іншы раз абменьваючыся кароткімі рэплікамі.

(Заканчэнне на 5-й стар.).

## АЛЯКСАНДРА САКОВІЧ (ІНА РЫТАР). ЖЫЦЦЁ І ТВОРЧАСЦЬ

Проза Аляксандры Саковіч (Іны Рытар) -- апавяданні, аповесці, успаміны -- успрымаецца сёння як бясцэнна-праўдзівыя дакументы нашай эпохі. Іна Рытар -- амаль равесніца XX стагоддзя -- была сведкам і відавочцам падзей рэвалюцыі, грамадзянскай, першай і другой сусветных войнаў, сталінскіх рэпрэсій. Вымушаная пайсці ў выгнанне, яна ўжо паўстагоддзя жыве ў Злучаных Штатах Амерыкі. Там і пачыналася яе творчасць, цалкам прысвечаная Бацькаўшчыне, там, у Нью-Йорку, Беларускім інстытутам навукі і мастацтва была выдадзена кніга яе аповесцей і апавяданняў "У пошуках праўды" (1986), напісаны ўспаміны пра Янку Купалу, Якуба Коласа, Язэпа Лёсіка, Пятра Бузука, Міхайлу Грамыку, Усевалада Ігнатоўскага, Аляксандра Цвікевіча, Мітрафана Доўнар-Запольскага і іншых таленавітых прадстаўнікоў беларускай нацыі, якіх яна асабіста добра ведала, з якімі сябравала, знаходзілася ў сваяцкіх і духоўна блізкіх адносінах. Расказала яна ў сваіх успамінах і пра многіх актыўных дзеячаў беларускай эміграцыі ў ЗША: Зору і Вітаўта Кіпеляў, Янку Запрудніка, Аўгена Каханоўскага-Калубовіча, пра заснаванне беларускай гімназіі імя Янкі Купалы ў Германіі (1945--1950) у лагеры перамешчаных асобаў, дзе жылі пераважна беларускія сем'і. А з такіх яе артыкулаў, як "Лістападаўцы", "Да гісторыі Беларускага дзяржаўнага універсітэту", "Археалагічная экспедыцыя ў 1928 г.", "Мінск у 1930--1931 гг.", паўстае яскравая карціна жыцця на Беларусі 20--30-х гадоў, раскрываецца складаны і супярэчлівы духоўны стан грамадства, якое ўступала ў перыяд панавання таталітарнага рэжыму, калі надыходзіў пік сталінскіх рэпрэсій, пачыналася вынішчэнне цвету нацыі...

Пісьменніцкая актыўнасць Іны Рытар прыпадае на 50--80-я гады, а гэта ўжо той перыяд, калі на Беларусі творчыя таленты былі скаваны так званай "тэорыяй бесканфліктнасці", метадам сацыялістычнага рэалізму, ідэалагічнымі догмамі і ўстаноўкамі кіруючай партыі. Непараўнальныя, вядома, жыццёвыя ўмовы, у якіх апынулася беларуская жанчына-эмігрантка і ў якіх існавалі яе землякі-творцы, як непараўнальныя творчыя і чалавечыя індывідуальнасці наогул. Аднак яе проза цікавая для нас перажытасцю матэрыялу, той праўдай чалавечых лёсаў і абставін, якую доўгі час нам забаронена было ведаць. У вольным свеце яна магла адкрыта і нязмушана пісаць пра тое, што жыло ў сэрцы -- гады маладосці, незабыўныя страты, цяжкія выпрабаванні, якія выпалі жанчыне на радзіме і на складаных выгнанніцкіх шляхах.

У гэтым годзе Іне Рытар (па мужу Іна Кахановская, літаратурны псеўданім -- Аляксандра Саковіч) спаўняецца 90 гадоў. Яна жыве сярод землякоў у амерыканскім горадзе Кліўлендзе, які прыгарнуў многіх беларусаў і дзе заснавалася шматлікая беларуская калонія, паўстаў культурны цэнтр "Полацак", пабудавана Беларуская праваслаўная царква.

Вышэйшую адукацыю Іна Рытар атрымала на Беларусі, хоць нарадзілася яна ў Адэсе, у сям'і беларусаў, якія паходзілі з мястэчка Ярэмічы,

(Працяг на 6-й стар.).

## ПАДАРОЖЖА Ў КУКЛЯНДЗІЮ



**Ёсць людзі, якія ні дня не могуць існаваць па-за творчасцю. Ім духоўна блізкае ўсё, у чым ёсць іскра прыгажосці. Менавіта да такіх людзей можна аднесці Людмілу Санберг.**

НА ЗДЫМКУ: Людміла САНБЕРГ з лялькамі.

*(Заканчэнне рэпартажу на 8-й стар.).*

## ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*АФІЦЫЙНАЯ ХРОНІКА*



14 жніўня Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь Аляксандру Лукашэнку ўручыла вярыцельныя граматы Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Індыі ў Рэспубліцы Беларусь Маду Бхадуры.
НА ЗДЫМКУ: у час цырымоніі.

*ПАЛІТЫЧНАЕ ЖЫЦЦЁ*

### І ЗНОЎ РЭФЕРЭНДУМ

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка ўнёс на разгляд Вярхоўнага Савета пакет дакументаў, у якіх кіраўнік дзяржавы ініцыіраваў правядзенне 7 лістапада 1996 года рэферэндуму па ўсенароднаму прыняццю Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1994 года са зьмяненнямі і дапаўненнямі.

"Уся сутнасць канстытуцыйных змен заключаецца ў тым, што яны патрэбны пад новую праграму развіцця нашай дзяржавы, пад новы курс. Менавіта пагэтаму сёння з'явілася ініцыятыва рэферэндуму па Канстытуцыі. Частку пытанняў я ўжо накіраваў у Вярхоўны Савет", -- сказаў А. Лукашэнка.

Ён таксама адзначыў некаторыя адрозненні праекта новай рэдакцыі Канстытуцыі ад дзеючай зараз. У прыватнасці, яны датычацца пэўных змен дзяржаўнай пабудовы нашай краіны. Прэзідэнт павінен у структуры дзяржаўнай улады займаць асобае месца і быць кіраўніком дзяржавы. "Павінен быць чалавек і інстытут, які б каардынаваў адносіны ўладаў. Мы тут зрабілі раней вялікую памылку". Выканаўчая ўлада, адлюстраваная ў асобе ўрада, павінна быць пры кіраўніку дзяржавы. Прапаноўваецца і новая схема фарміравання састава Канстытуцыйнага суда і Цэнтрвыбаркома. Паводле слоў Прэзідэнта, яны павінны фарміравацца напалову Сенатам (прапаноўваецца, дарэчы, двухпалатны парламент), а напалову -- Прэзідэнтам. З мэтай шырокага абмеркавання праекта новай Канстытуцыі плануецца аддрукаваць яго, распаўсюдзіць праз сродкі масавай інфармацыі.

Акрамя таго, хутчэй за ўсё будзе вынесена на ўсенароднае абмеркаванне праблема куплі-продажу сельскагаспадарчай зямлі. Прэзідэнту прапануюць высвятліць адносіны людзей да прыватызацыі, але ён лічыць, што рабіць гэта няма сэнсу, паколькі прыватызацыя ўжо ідзе і галоўнае, як яна павінна ісці. А гэта будзе адлюстравана ў праграме развіцця дзяржавы, якую прапануе Прэзідэнт. Прапаноўвалася ўвесці і пытанне адносна пашырэння НАТО на Усход. "Я таксама не схільны ўносіць гэтае пытанне, паколькі і так вядомы адносіны нашага народа да гэтай праблемы", -- заўважыў А. Лукашэнка. Ёсць прапанова паставіць пытанне аб адносінах да смяротнага пакарання, аб пераносе даты святкавання Дня незалежнасці з 27 на 3 ліпеня.

Аляксандр Лукашэнка нават выказаў сваю згоду на сустрэчу з кіраўнікамі палітычных партый і аб'яднанняў, а таксама прапанову аб правядзенні форуму народа Беларусі.

*ПАЛЕССЕ, НОВАЯ ПАПІНА*



Багатае сваім фальклорным мастацтвам Палессе. Песні, казанні, абрады тут перадаюцца з пакалення ў пакаленне. Студэнтка другога курса філалагічнага факультэта Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта Наташа ДУНЬКОВІЧ праходзіць фальклорную практыку ў роднай вёсцы Новая Папіна Драгічынскага раёна. А расказвае ёй аб мясцовых песнях і гаворках Любоў БОЗІК (на здымку). Яна вядомая ў акрузе як збіральніца песень, прыказак, народных паданняў.

*НАПЯРЭДАДНІ НАВУЧАЛЬНАГА ГОДА*

### ДЗЯРЖАЎНАЯ АДУКАЦЫЯ ПЕРАСТАЕ БЫЦЬ БЯСПЛАТНАЙ

У 1996/97 навучальным годзе дзяржаўныя ВНУ Беларусі папоўняць 30 тысяч студэнтаў-першакурснікаў. 23 тысячы з іх будуць атрымліваць адукацыю бясплатна, а 7 тысячам за набыццё ведаў давядзецца плаціць.

На працягу некалькіх гадоў у дзяржаўных ВНУ адбывалася пашырэнне практыкі навучання на платнай аснове, а сёлета з іх упершыню былі зняты ўсялякія абмежаванні на платны набор студэнтаў.

Найбольшая колькасць "платных" студэнтаў на сённяшні дзень у Акадэміі кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь і ў Беларускім дзяржаўным эканамічным універсітэце. А вось самая высокая плата за навучанне ўстаноўлена флагманам айчыннай навукі -- Беларускім дзяржаўным універсітэтам.

Асаблівасцю будучага навучальнага года стане зніжэнне колькасці студэнтаў, якія вучацца завочна: у працэнтных суадносінах яны складаюць менш за 40 працэнтаў ад агульнай колькасці першакурснікаў. Вячэрняя форма навучання, відаць, неўзабаве наогул перастане існаваць.

*ЗАМЕСТ ВАЕННЫХ ЗАКАЗАЎ -- МЭБЛЯ*



Значную частку прадукцыі буйнейшага ў Беларусі дрэваапрацоўчага прадпрыемства "Гомельдрэў" складалі ваенныя заказы. Але вялікія плошчы, што вызваліліся ў выніку канверсіі, доўга не пуставалі. Пасля рамонту памяшканняў тут пачалі ўстанаўліваць высокаякаснае італьянскае абсталяванне фірмы "Коімпекс", закупленае на крэдыт Германіі. Асвоена ўжо 40 працэнтаў крэдыту -- устаноўлена станкоў на 2 мільёны марак, што дазваляе вырабляць мэблю на ўзроўні лепшых еўрапейскіх узораў з натуральнага драўлянага масіва з аб'ёмным фасадам. Выпушчаны першыя ўзоры такой элітнай мэблі, што атрымала назву "Парыж" і здольная канкурыраваць з любымі замежнымі аналагамі.

НА ЗДЫМКУ: узоры мэблі, выраблenaй на абсталяванні "Коімпекс".

*ДЗЕ ГРОШЫ?*

### НАСТАЎНІКАЎ ПАДМАНУЛІ

Запазычанасць па заработнай плаце работнікам адукацыі ў абяцаны тэрмін так і не ліквідавана. Як вядома, на апошнім пасяджэнні Нацыянальнага савета па працоўных і сацыяльных пытаннях прадстаўнік Міністэрства фінансаў паабяцаў да пачатку новага навучальнага года поўнасцю разлічыцца з настаўнікамі. Меркавалася да 10 жніўня пагасіць запазычанасць за ліпень, а затым на працягу месяца разлічыцца за жнівень.

Як паведаміў рэспубліканскі камітэт Беларускага прафсаюза работнікаў адукацыі і навукі, агульны аб'ём запазычанасці за гэты час зменшыўся прыкладна на трэць: калі на 1 жніўня ён складаў прыкладна 98 мільярдаў рублёў, то на 9 жніўня -- каля 64 мільярдаў, з якіх больш палавіны -- запазычанасць за ліпень. Такім чынам, рашэнне Нацыянальнага савета не выканана.

*СЛУЖБА ЗАНЯТАСЦІ*

### РАСЦЕ БЕСПРАЦОЎЕ

У мінулым месяцы 20 770 нашых суграмадзян зарэгістраваліся ў рэспубліканскай службе занятасці ў якасці беспрацоўных.

Упершыню сумнае лідэрства па гэтаму паказчыку належыць Віцебскай вобласці -- 3 691 чалавек. У Брэсцкай у ліпені стала на 3 441 беспрацоўнага больш, у Гродзенскай -- на 3 095, за імі ідуць Гомельская, Мінская і Магілёўская вобласці. У сталіцы спіс тых, хто мае патрэбу ў працаўладкаванні, папоўнілі 2 248 чалавек. Такім чынам, паводле даных на 1 жніўня, у рэспубліцы 180 391 беспрацоўны. Матэрыяльную дапамогу з іх атрымліваюць толькі 87 952 чалавекі, сярэдні яе памер -- 130 332 рублі. І дзяржаве гэта каштавала ў ліпені амаль 12,5 мільярда рублёў.

*МІЖНАРОДНЫ КОНКУРС*

### ЮНЫЯ ГРАЦЫІ

Упершыню навучэнцы Беларускага дзяржаўнага харэаграфічнага каледжа выступілі на XVII Міжнародным конкурсе артыстаў балета, які прайшоў у курортным балгарскім горадзе Варна.

Беларусь прадстаўлялі толькі 2 юныя грацыі -- Ірына Цымбал і Аста Базявічутэ. Конкурс прэстыжны, яго можна параўнаць хіба што з Алімпійскімі гульнямі, удзельнічаць у якіх марыць усе спартсмены.

Нашы прадстаўніцы -- а ў Варну прыехала 207 танцораў з 33 краін свету -- былі адразу ж "заўважаны". І хаця тут удзельнічала нямала здольных вучняў з СНД, у малодшай групе ўдалося "ўзяць" бронзавыя медалі толькі дзвюм танцоўшчыцам з Беларусі.

Членам журы на гэтым конкурсе быў і Валянцін Елізар'еў.

*ДЭМАГРАФІЯ*

### СУЦЭЛЬНЫ БРАК У СЯМЕЙНЫМ ЦАРСТВЕ

На тры шлюбы ў Гродзенскай вобласці прыпадае два разводы. Як сведчыць статыстыка, у першым паўгоддзі гэтага года на Гродзеншчыне было зарэгістравана 2,9 тысячы шлюбаў і 2,1 тысячы разводаў. Колькасць створаных сем'яў, у параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года, зменшылася на 13,8 працэнта, а тых, што распаліся, -- павялічылася на 4,8 працэнта. Гэта, безумоўна, не магло не адбіцца на нараджальнасці: за першае паўгоддзе на свет з'явілася 5,9 тысячы немаўлят, ці на 7,8 працэнта менш, чым у мінулым годзе. У выніку колькасць памершых у 1,5 раза перавысіла колькасць новаранароджаных, што на 2,9 працэнта больш, чым у мінулым годзе. Смяротнасць на Гродзеншчыне перавышае нараджальнасць з 1993 года.

*ГОСЦЬ ОРШЫ*

### ФРАНЦУЗСКІ ВУЧОНЫ

Оршу наведаў прафесар, дырэктар Цэнтра напалеонаўскіх даследаванняў Францыі Фернан Бакур. Ён пабываў у мясцінах, па якіх прайшлі войскі Напалеона.

Госць з Парыжа наведаў Аршанскі музей гісторыі і культуры, агледзеў экспазіцыю, прысвечаную вайне 1812 года.

Французскі вучоны павёз у Парыж фотарэпрадукцыю карціны самадзейнага аршанскага мастака Аляксандра Шакуціна "Пераправа Напалеона цераз Дняпро", а таксама брашуру супрацоўніка музея Віктара Лютынскага "Орша ў вайне 1812 года".

*НЕБЯСПЕКА!*

### ЧЫРВОНЫЯ МАКІ...

З пачатку дзевяностых гадоў на Гродзеншчыне назіраецца ўстойлівы рост злачынстваў, звязаных з наркотыкамі.

У 1991 годзе такіх выпадкаў у вобласці было зарэгістравана 45, у 1992 -- 91, у 1993 -- 154, у 1994 -- 177, у 1995 -- 197. Першая палова 1996 года прынесла яшчэ 83 злачынствы, што адпавядае ўзроўню першай паловы мінулага года. За першае паўгоддзе ў вобласці знішчана пасеваў маку на плошчы 1 272 квадратныя метры. Дарэчы, не ўсе ведаюць, што захаванне больш за 10 грамаў макавай саломкі з'яўляецца злачынствам (пакаранне -- да 3 гадоў пазбаўлення волі). За вырошчванне маку на дачным ці прысядзібным участку на першы раз накладваецца штраф ад 5 да 10 мінімальных заробкаў (ад 500 тысяч да 1 мільёна рублёў). Зараз у вобласці зарэгістравана 250 наркаманаў, і большасць з іх -- моладзь да 28 гадоў.

*ДЛЯ ЗАМЕЖНЫХ ЗАКАЗЧЫКАЎ*



Унікальнае для нашых суднабудаўнічых заводаў судна нядаўна спушчана на ваду на Рэчыцкім суднарамонтна-суднабудаўнічым заводзе. Сухагруз вагой 600 тон і грузападымальнасцю 2 100 тон будзе па Дняпру праз Чорнае і Міжземнае моры перапраўлена ў Галандыю. Гэта ўжо другое судна, пабудаванае беларускімі карабеламі для галандскіх партнёраў.

НА ЗДЫМКУ: у час спуску на ваду сухагруза для Галандыі.

ПА ЧУЖЫХ СТАРОНКАХ

# БЕЛАРУСЬ МОЖА САМА ПРАВІЛЬНА ДЫЯГНАСТАВАЦЬ І ЛЯЧЫЦЬ СВАЕ ХВАРОБЫ

## ТАКОЕ МЕРКАВАННЕ ЛОРДА-МЭРА ЛОНДАНА СЭРА ДЖОНА ЧЭЛСТРЫ

У канцы ліпеня ў Мінску знаходзілася прадстаўнічая брытанская дэлегацыя, якую ўзначальваў Лорд-мэр Лондана Леанар Джон Чэлстры. Адной з галоўных мэтаў візіту былі прадстаўленне лонданскага Сіці, найважнейшага еўрапейскага і сусветнага фінансавага цэнтра, абмеркаванне перспектыў двухбаковага супрацоўніцтва ў фінансавым і гандлёвым сектарах эканомікі.

Прадстаўнікі лонданскага Сіці сустрэліся з прэм'ер-міністрам Беларусі М.Чыгіром, старшынёй праўлення Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь Т.Віннікавай, кіраўніком прэзідэнцкай адміністрацыі М.Мясніковічам, мэрам Мінска В.Ярмошыным, іншымі афіцыйнымі асобамі. Вечарам 26 ліпеня на афіцыйным прыёме з выпадку Дня незалежнасці адбылося знаёмства Лорда-мэра з А.Лукашэнкам.

На думку сэра Чэлстры, рэальным вынікам праведзеных сустрэч можа стаць падпісанне дагаворанасцяў аб супрацоўніцтве ў страхавой і банкаўскай справе, абмене і стажыроўках урачоў. Пра гэта Лорд-мэр Лондана заявіў беларускім журналістам на непрацяглай прэс-канферэнцыі ў Доме друку. Ён таксама выказаў пераканане ў тым, што будучыня Беларусі не толькі і не столькі ў прамысловай вытворчасці, але і ў сферы паслуг. І тут нашай краіне мог бы аказаць значную дапамогу замежны інвестар, у тым ліку і брытанскі. Баяцца замежнага капіталу не варта, упэўнены сэр Чэлстры. У лонданскім Сіці, напрыклад, мірна суіснуюць прадстаўніцтвы 559 банкаў з 72 дзяржаў, замежныя кампаніі забяспечваюць 40 працэнтаў занятасці мясцовага насельніцтва і даюць штогод 20 мільярдаў фунтаў стэрлінгаў у казну дзяржавы.

Лорд-мэр Лондана пабываў у анкалагічным аддзяленні 1-й гарадской клінічнай бальніцы Мінска, у Рэспубліканскім цэнтры лячэння пухлін шчытападобнай залозы, дзе перадаў калегам універсальны апекарацыйны стол. Бадай, гэта была адзіная сустрэча сэра Чэлстры, якой ён удзяліў больш дзвюх гадзін, што і не дзіўна. Хірург з багатым вопытам правядзення складанейшых аперацый, які атрымаў ступень доктара медыцыны пасля абароны ў Кембрыджы дысертацыі па раку шчытападобнай залозы, мусіць, не мог інакш.

-- *Сэр Чэлстры, як вы ацэньваеце работу сваіх беларускіх калег хірургаў-анкологаў?*

-- Вельмі высока. У гэтай клініцы накоплены багаты вопыт лячэння раку, які перавышае не толькі наш, англійскі, але і ў цэлым сусветны. Гэта вельмі сумны факт. І вельмі важна, каб вопыт вашых урачоў быў перададзены іх калегам у іншых краінах. Таму што веды, асабліва ў галіне медыцыны і ў галіне хірургіі ў прыватнасці, з'яўляюцца агульнасусветным здабыткам. Я думаю, брытанскія ўрачы маглі б знайсці для сябе шмат карыснага, пастажыраваўшыся ў Мінску.

-- *Як вы думаеце, ці дастаткова інфармаваны жыхары Вялікабрытаніі і яе сталіцы аб рэальных выніках чарнобыльскай аварыі?*

-- Мяркую, яны ведаюць аб выніках гэтай трагедыі. Іншая справа, што інфармацыя недастаткова поўная. Таму, калі я вярнуся на радзіму, буду ўсімі сіламі спрабаваць выправіць гэтае становішча. Чарнобыльская бяда заслугоўвае таго, каб пра яе як мага больш шырока ведалі на Захадзе.

-- *Сэр Чэлстры, якое меркаванне склалася ў вас пасля гутарак з кіраўніцтвам Беларусі? Як вам здаецца, ці бачаць гэтыя людзі рэальныя шляхі выхаду з крызіснай сітуацыі, у якой знаходзіцца краіна?*

-- Сустрэчы мае былі непрацяглымі, і мне, вядома, вельмі цяжка рабіць нейкія маштабныя вывады. Аднак магу ўпэўнена сказаць: вашы лідэры поўнасцю разумеюць усе праблемы, што стаяць перад краінай. Больш таго, яны сёння робяць канкрэтныя крокі па выпраўленню становішча. На дэлегацыю брытанскіх бізнесменаў моцнае ўражанне, мне здаецца, зрабіла рашучасць вашага ўрада, іншых дзяржаўных органаў рухацца ў бок рынку не занадта хутка, але асцярожна і паслядоўна. Я думаю, вынікам гэтага стануць англійскія інвестыцыі ў вашу эканоміку. Мне хацелася б, каб гэтыя інвестыцыі былі паспяховымі.

-- *І ўсё ж, як урач і палітык, што б вы маглі парэкамендаваць хворай беларускай эканоміцы: працяглае медыкаментознае лячэнне ці радыкальнае хірургічнае ўмяшальніцтва?*

-- Думаю, і тое, і другое. Некаторыя балячкі павінны быць неадкладна ссечаны, іншыя -- падвергнуты працягламу, асцярожнаму лячэнню. Пры гэтым не варта забываць і пра шырока вядомыя, даступныя спосабы аздараўлення. На маю думку, у Беларусі ёсць палітыкі і дзяржаўныя дзеячы, здольныя правільна дыягнаставаць і лячыць усе хваробы.

Сяргей ВЕРАС.

("Белорусская газета").

# СКАЖЫ, ХТО ТВОЙ КУМІР...

**У маі--чэрвені 1996 года Незалежны інстытут сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў у рамках праекта "Фарміраванне грамадскіх лідэраў у посткамуністычнай Беларусі" правёў чарговае агульнанацыянальнае апытанне дарослага насельніцтва краіны.**

У ходзе апытання высвятлялася, каго з дзяржаўных дзеячаў мінулага рэспандэнты лічаць ідэалам палітыка. Апытаным прапаноўвалася выбіраць з гатовага спісу. Зрэшты, яны маглі і самі ўпісаць вядомага дзеяча, не ўказанага складальнікамі анкеты.

У спісе, які прыводзіцца ніжэй, указаны дзеячы, што набралі ў апытанні больш 10 працэнтаў.

***Хто з дзяржаўных дзеячаў і палітыкаў мінулага ў найбольшай ступені вам сімпатычны, адпавядае вашаму ідэалу палітыка!***

*(можна адзначыць не больш трох імёнаў)*

| | |
|---|---|
| **Пётр Машэраў** | **45,2 прац.** |
| **Пётр Першы** | **34,2 прац.** |
| **Леанід Брэжнеў** | **20,0 прац.** |
| **Маргарэт Тэтчэр** | **19,5 прац.** |
| **Уладзімір Ленін** | **18,7 прац.** |
| **Юрый Андропаў** | **12,9 прац.** |
| **Пётр Сталыпін** | **11,1 прац.** |
| **Іосіф Сталін** | **10,8 прац.** |

Усе названыя палітыкі, акрамя былога брытанскага прэм'ера Тэтчэр, -- расійскія ці савецкія. Гэта азначае, што беларусы да сёння жывуць у расійскім і савецкім гістарычным кантэксце. Першае месца заняў Машэраў -- дзеяч, роля якога ў сусветнай палітыцы была дастаткова сціплай, але ў беларускай -- вельмі значнай. І аказаную яму перавагу можна растлумачыць тым, што беларускія праблемы, нядаўні нацыянальны вопыт аказваюцца для многіх апытаных больш значнымі, чым падзеі ў блізкіх і далёкіх суседзяў.

Другая важная асаблівасць спісу -- характар лідэраў, якія фігуруюць у ім. Усе яны, акрамя Л.Брэжнева, жорсткія, часам бязлітасныя палітыкі, схільныя да аўтарытарнага стылю кіравання. Большасць з іх не вельмі абцяжарвалі сябе пунктуальным выкананнем законаў і ўлікам меркаванняў меншасці. Зразумела, жорсткі стыль кіравання "жалезнай лэдзі" нельга параўноўваць з дыктатурай Сталіна. Але ўсё ж перавага, што аддаецца жорсткім палітыкам, вельмі паказальная. Магчыма, менавіта таму дэманстратыўнае ігнараванне законаў з боку цяперашняй выканаўчай улады ўспрымаецца многімі надзвычай спакойна: менавіта так, па іх уяўленню, павінен весці справы ідэальны палітык.

("Белорусская газета").

# БЕЛАРУСКІ "РОЛЕКС"

Кіраўніцтву акцыянернага таварыства "Мінскі гадзіннікавы завод" удалося пераканаць урад, Нацбанк і Адміністрацыю Прэзідэнта Беларусі ў мэтазгоднасці фінансавання інавацыйнага праекта па вытворчасці залатых гадзіннікаў.

Згодна з гэтым праектам, пачынаецца актыўнае супрацоўніцтва завода "Прамень" і швейцарскіх гадзіннікавых фірм, кантракты паміж якімі былі падпісаны яшчэ 22 сакавіка 1996 года. Швейцарцы будуць пастаўляць фірменныя камплектуючыя (залатыя карпусы, бранзалеты), а канчатковая зборка будзе праходзіць у Беларусі з выкарыстаннем адаптаванага айчыннага механізма (еўрастандарт). На зборцы будуць заняты каля двух дзесяткаў мінскіх гадзіншчыкаў. Мінскаму "Праменю" прадстаўляецца таксама права на выкарыстанне фірменных надпісаў-лагатыпаў "Кандор" і "Ролекс". Пакупнікам будзе прапанавана 5 мадэляў гадзіннікаў, арыенціровачная цана якіх -- 350-1 500 долараў ЗША. Аб'ём прадукцыі плануецца давесці да 10--15 тысяч штук у год.

Першая частка крэдыту (які выдаецца на 3 гады) складзе 3,7 мільёна долараў. Мяркуецца, што крэдытнае абслугоўванне будзе праводзіцца цераз "Беларусбанк" на звычайных умовах гэтага банка.

У першыя тры месяцы завод вызваляецца ад уплаты некаторых падаткаў, мытных пошлін.

Віктар ЮРЧУК.

("Белорусский рынок").

# АЎТАМАБІЛІ НА ДАРОГАХ

**Тое, што на вуліцах Мінска за апошнія некалькі год значна павялічылася колькасць аўтамабіляў, з'ява ўвогуле і нядрэнная. Трэба ж неяк наблізіцца да агульнаеўрапейскіх стандартаў жыцця. Але не сакрэт, што ў асноўным папаўненне айчыннага легкавога аўтапарка ідзе за кошт набыцця беларускімі грамадзянамі ўжо добра паношаных іншамарак. Так, недзе там, у Германіі ці Галандыі, яны былі дагледжанымі, праходзілі строгія выпрабаванні на экалагічнасць. У нас жа на гэты конт належны парадак яшчэ трэба наводзіць.**





**З мэтай паляпшэння экалагічнага становішча ў горадзе, змяншэння шкодных выкідаў у атмасферу ад аўтамабільнага транспарту і аховы зялёных насаджэнняў горада гарвыканкомам і было ўтворана экалагічнае падраздзяленне дарожна-патрульнай службы міліцыі. З таго часу прайшло 3 гады. Невялікае падраздзяленне перайтварылася ў аддзел экалагічнага нагляду, дзе ўжо 75 супрацоўнікаў.**

**На сённяшні дзень гэта мабільнае падраздзяленне, якое ва ўзаемадзеянні з экалагічнай пракуратурай, Мінскім камітэтам аховы прыродных рэсурсаў і навакольнага асяроддзя праводзіць вялікія прафілактычныя мерапрыемствы, накіраваныя на аздараўленне навакольнага асяроддзя ў горадзе: ажыццяўляюць кантроль за выкідамі ў атмасферу шкодных рэчываў аўтатранспарту, дарэчы, пры значных парушэннях увогуле забараняюць яго эксплуатацыю; сочаць за паркоўкай аўтамабіляў у сталіцы і зонах адпачынку грамадзян.**

**Сёння падраздзяленні, аналагічныя Мінскаму аддзелу экалагічнага нагляду ДАІ, існуюць і актыўна працуюць ва ўсіх абласных цэнтрах Беларусі.**

**Мікалай ВАСІЛЬЕЎ.**

**НА ЗДЫМКАХ: старшы інспектар аддзела экалагічнага нагляду маёр міліцыі М. ВАСІЛЬЕЎ; на спецыяльным пасту пры ўездзе ў сталіцу правяраюць колькасць шкодных рэчываў у выхлапных газах аўтамабіляў; аўтамабільныя "могілкі".**

**Фота В. СТАВЕРА.**



## У БЕЛАРУСКІМ ТАВАРЫСТВЕ "РАДЗІМА"

# "Я ДУШОЙ КАЛЯ ВАС..."

Іван Рамановіч жыве ў Аргенціне. Жыве даўно, больш за паўвека. І вось сёлета ўпершыню прыехаў на Беларусь. Пабываў у родных мясцінах, сустрэўся з блізкімі і знаёмымі, завітаў у таварыства "Радзіма", дзе і падзяліўся сваімі ўражаннямі.

-- У мяне не хапае слоў, каб выказаць свае пачуцці, -- усхвалявана гаворыць Іван Піліпавіч. -- Можа гэтыя фотаздымкі дапамогуць.

Ён дастае пачак каляровых фатаграфій, зробленых у роднай вёсцы Любачын, што недалёка ад Лунінца, у Мінску, дзе ён спыніўся ў роднай сястры Кацярыны...

Кацярына Піліпаўна таксама сядзіць побач і, калі брату не хапае слоў, дапамагае. Гаворыць яна таксама з акцэнтам, хаця жыве ў Беларусі ўжо даўно.

Рамановічы ў свой час прайшлі той жа шлях, што і многія іншыя эмігранты з Беларусі. Іх дзед паляшук Васіль Рамановіч меў млын у вёсцы Любачын. Яго сын Піліп пераняў справу. Але ў 30-я гады яму ўжо цяжка было паднімаць сям'ю. І сабраліся Рамановічы ў 1938 годзе за акіян. Івану тады было 13 год, Кацярыне менш, а яшчэ малодшыя -- Міхаіл і сястра Вольга.

У Буэнас-Айрэсе ім дапамог дзядзька Апанас, бацькаў брат: даў прытулак, падтрымаў матэрыяльна.

Дарэчы, калі ў сярэдзіне 50-х Апанас Рамановіч вярнуўся ў Беларусь, то ўжо Піліп дапамог брату атабарыцца ў Мінску. Сам жа ён са сваёй жонкай і двума дзецьмі (Іван з сястрой застаўся ў Аргенціне) прыехалі на радзіму крыху раней.

І вось толькі цяпер Івану давялося зноў убачыць родны кут, пабываць на магілах бацькоў, з якімі так і не сустрэўся, не дачакаліся Піліп і Ганна, памерлі ў 1983 годзе.

-- Мы пастараліся зрабіць усё, каб Іван мог убачыць тут як мага больш, -- зазначае Кацярына Піліпаўна. -- Дзякуй Богу, і ўсім добрым людзям, хто нам дапамагаў!

"Добрыя людзі" -- гэта і дачка Кацярыны Піліпаўны Людміла, і сын Міхаіл, і сябры, з якімі пачыналі жыццёвы шлях яшчэ ў Аргенціне... Сярод іх і Сяргей Картэс, старшыня праўлення таварыства "Радзіма".

-- Сяргей больш сябраваў з нашым малодшым братам Міхаілам, - прыгадвае Іван Піліпавіч. -- Яны і тут, у Мінску, пасля вяртання з Аргенціны не гублялі сувязь.

-- Тым больш, што і прафесійныя інтарэсы іх звязваюць: Сяргей -- вядомы кампазітар, а Міхаіл працаваў у філармоніі, -- падказвае Кацярына Піліпаўна.

-- Так, так, -- згаджаецца Іван Піліпавіч, -- Сяргей і мяне, як бы сказаць, далучыў да культуры: мы пабывалі ў тэатры оперы і балета, глядзелі "Лебядзінае возера", слухалі оперу "Князь Ігар". Незабыўнае ўражанне!

Іван Піліпавіч працаваў майстрам па рамонту гадзіннікаў, меў сваю майстэрню ў Кардове, дзе жыве апошнія 25 год.

-- Ладзіў я і рускія гадзіннікі, і мінскія, фірмы "Прамень". Харошыя гадзіннікі, -- зазначае зямляк.

Яго ацэнцы можна верыць: гадзіншчыка Івана ў Кардове ведаюць многія. Праўда, у апошнія гады, калі пайшлі электронныя гадзіннікі, Іван адышоў ад спраў, заняўся іншым бізнесам, у якім яму сёння дапамагае яго сын Фернанда.

-- Ён -- мая надзея, -- гаворыць Іван Піліпавіч. -- Дачка Норма жыве ў Буэнас-Айрэсе. У яе свая сям'я. А мы з жонкай Юзэфай, думаю так і дажывём свой век у Кардове. Месца добрае, толькі мала там нашых.

"Нашы" для Рамановіча -- гэта і беларусы, і рускія, і ўкраінцы...

-- Гэта вы тут падзяліліся, -- з горычу канстатуе Іван Піліпавіч, -- нейкія межы ўзвялі, мытні. А мы там як адна сям'я. У культурных таварыствах: у "Аўроры", "Белавежы", імя Максіма Горкага -- мы не глядзелі, хто беларус, хто рускі. І песні ў нас былі агульныя.

Раптам Іван Піліпавіч узмахнуў рукой і заспяваў: "Широка страна моя родная..." А калі скончыў, на вачах старога эмігранта былі слёзы.




-- Я веру, што наша краіна яшчэ будзе такой, -- з упэўненасцю гаварыў Іван Піліпавіч.

І як жа ўзрадаваўся, калі атрымаў у падарунак дыск з песнямі харавога калектыву "Дружба", які аб'ядноўвае суайчыннікаў, што жывуць у Аргенціне.

-- Гэтая кружэлка, як і іншыя сувеніры, будзе нагадваць мне аб Радзіме, -- усхвалявана гаварыў наш госць пры развітанні. -- І калі я буду далёка адсюль, у Аргенціне, ведайце: я душой каля вас!

**Уладзімір МЯЛЕШКА.**

**НА ЗДЫМКУ: Іван РАМАНОВІЧ, Уладзімір МЯЛЕШКА і Каця РАМАНОВІЧ каля таварыства "Радзіма".**

## НА МІНСКІМ ВЕЛАСІПЕДЗЕ -- ПРАЗ РАСІЮ І БЕЛАРУСЬ



**Ёсць яшчэ на свеце "дзівакі", якіх і зразумець складана. Так, журналіст раённай газеты "Авангард" горада Находка (Расійская Федэрацыя) Генадзь МІХАЙЛАЎ вырашыў даказаць, што веласіпед вытворчасці Мінскага мотавелазавода -- самы лепшы. Сеў на яго з невялікім рукзаком за плячыма ў родным горадзе і праз 96 сутак турыста ўжо можна было фатаграфаваць ля сцен легендарнай Брэсцкай крэпасці (на здымку). Пройдзены нялёгкі шлях у 11 063 кіламетры. Такога выпрабавальніка ў мінскай велатэхнікі, бадай, яшчэ не было. У будучым годзе Генадзь Яўгенавіч хоча здзейсніць падобнае шматкіламетровае падарожжа па Кітаі. Справа цяпер толькі за новым веласіпедам.**

**Фота Рамана КАБЯКА.**

## БУДАЎНІКІ ТАЯМНІЧАГА ХРАМА САЛАМОНАВА

# АГАПЫ

**Храміна лепшае будучыні ўзводзіцца пакаленнямі, кожнае з якіх альбо прыхарошвае будоўлю, альбо крушыць яе і пачынае нанава, на ўласнае разуменне. Узведзеныя мулярскай рукой цэрквы нагадваюць нам аб розніцы паміж жыццём вечным і скарацечным.**

**Дзесьці ў XVI--XVII стагоддзях будоўля храмаў боскіх саступае месца ўзвядзенню універсальнага і ідэальнага храма Саламона, без дзяржаўных межаў і нацыянальных адметнасцяў. Гэты храм таксама будавалі муляры, якія аб'ядноўваліся ў агапы...**

Агапамі ў XVIII стагоддзі -- часе росквіту вальнадумства і атэізму, культу асветы і ідэй прыроджанай роўнасці людзей -- называлі масонскія ложы. Гэтыя варштаты былі настолькі канспіратыўнымі, што рэтраграды бачылі ў іх сусветную змову, якая рыхтуе каварныя падкопы пад існуючы лад. То Ватыкан іх забароніць, і вольныя муляры прытуляцца да якога-небудзь венцаноснага заступніка. То гэты апякун ушчэміць місіянераў святла толькі на адным падазрэнні ў іх нядобранадзейнасці.

Вось і даводзілася бадзяцца, пашырацца, укараняцца, збірацца ў чорных пакоях, дзе ўступаючага ў ложу сустракалі сталы з чалавечымі чэрапамі, пагрозлівымі кінжаламі ды ўсялякімі мудрагелістымі аксесуарамі. Да таго ж статуты ложаў адгароджвалі сваіх членаў у якасці апосталаў праўды ад мора цемрашальнікаў, якія маглі быць толькі аб'ектам іх выратавальнай адукацыі. Каб прычасціцца да канчатковай ісціны, уступаючаму належала праціснуцца праз вытанчаную іерархію ложаў з майстрамі, магістрамі, членамі, вучнямі. Гэтую працэдуру ўзвышэння духа ў розных англійскіх, шведскіх, нямецкіх сістэмах пасвячэння выносілі аднолькава і рэспектабельны сноб, і ягоны ліслівы лакей. Словам, так бы мовіць, вольныя муляры будавалі ідэальнае грамадства роўных і мудрых у атачэнні замшэлых кансерватараў і варожых абставін.

Крышку бачным фасад таямнічага храма Саламонава на беларускай зямлі стаў пры першым намесніку Полацкай і Магілёўскай губерняў З. Чарнышове. Тады ў Расійскай імперыі ўкаранялася нямецкае розенкрэйцарства з пышным цырыманіялам, і вучэнне якога хілілася да "познания бога, натуры и себя". Чарнышоў якраз любіў дэкарацыі, бо пры ўзыходжанні Кацярыны II на




трон састаяў прыдворным цырымоніймайстрам і праславіўся як франкмасон. З 1772 года гросмайстрам нямецкай сістэмы 12 рускіх ложаў стаяў таемны саветнік і сенатар І. Ялагін, а майстрам -- граф М. Панін -- якраз той, які рыхтаваў першы падзел Рэчы Паспалітай.

Дзесьці ў 1776 годзе яны даручылі доктару І. Шварцу распаўсюдзіць сапраўднае масонства ў Беларусі. У Магілёве быў заснаваны "Геркулес у калысцы", майстрам стула якога стаў дырэктар казённай палаты А. Вяроўкін. Хаця тады казалі, што сапраўдных містыкаў было надта цяжка знайсці, а ўступіць у іх брацтва яшчэ цяжэй, але не тое было ў Магілёве. У магілёўскай канцылярыі Чарнышова па тэарэтычных ступенях (градусах) дасканаласці жадаючых сартавалі два чалавекі. Перакладчыкам тут працаваў калежскі асэсар Сямён Гамалея -- аскет, які ў імя сацыяльнай роўнасці не пажадаў прыняць падораных яму 300 душ. Маўляў, навошта яны, калі трэба выратаваць хаця б сваю душу.

Начальстваваў у канцылярыі нехта Васіль Алоеўцаў. Абодва выдатна прыстасавалі тэарэтычныя градусы масонства да службовай табелі аб рангах і крышку іншых градусаў. Пры іх на службу прыходзілі з аднае маркоты, а пасля ўпотайкі аддаваліся Бахусу. Па начах чыноўная брація збіралася на "масоніі", дзе бавіліся гарэлкай і пасвячалі вясельных гультаёў у тэарэтычныя градусы яловымі венікамі. Зранку ж дурасліўцы шумелі ў канцылярыі, нібы на кірмашы: кідаліся паперамі, скакалі па сталах і лаўках. Уначы гарэзаў ізноў секлі выхавальнымі венікамі, пасля чаго яны "как мак цвели". Выхаваныя тым шляхам чыноўнікі доўга не затрымліваліся, бо разыходзіліся па лінейных палках. Пасля таго як Чарнышоў у 1782 годзе пакінуў пасаду беларускага намесніка, магілёўскія масоніі набылі славу навучэльняў, дзе "небесную чистую натуру человеческую оживлял запах" не загадкавага ордэна тамплієраў, а "блаженные к познанию спасительных и единственных истин утоляли жажду" не зусім з "источника Эдемского". У 1786 годзе ложы розенкрэйцараў у імперыі закрылі, а ў 1787 годзе асобным загадам ордэнскіх начальнікаў былі спынены да часу і ўсе сходы, і перапіска вольных братоў. Муляры заселі ў падполле, і сярод іх пайшла мода на марцiністаў.

Высвятленнем існасці зменаў цікавілася шмат асобаў і ўстаноў. Да прыкладу, у 1793 годзе ў тым жа Магілёве дабудоўваўся храм Абручніка. Узводзіў яго пецярбургскі купец Пётр Чыраеў ды якраз пад наглядам спамянутага Вяроўкіна.

**Яўген АНІШЧАНКА,**
**кандыдат гістарычных навук.**

**НА ЗДЫМКУ: розенкрэйцараўскі медаль. Храм Саламона на медалі ордэна розенкрэйцараў.**

**(Заканчэнне будзе).**

# НА РАКАВЫМ ПАРОЗЕ

(Заканчэнне.
Пачатак на 1-й стар.).

Але калі падышла чарга савецкага паўпрэда А. Меракалава, не толькі затрымаў руку ў поціску, але і ўдастоіў таго гутаркі, што працягвалася некалькі мінут!

Трэба ўспомніць, у які час адбываўся гэты прыём. Становішча ў свеце трывожнае. Года не праходзіла без вайны. Спачатку Італія ўварвалася ў Абісінію, потым Японія напала на Кітай. Неспакойна было і на савецка-японскай граніцы.

А якімі былі адносіны СССР і Германіі? Восенню 1938 года на заходняй граніцы сканцэнтраваліся савецкія дывізіі, авіяэскадрыллі гатовы былі пераляцець на аэрадромы Чэхаславакіі, якой пагражаў германскі напад. Гітлер тады не меў перавагі ў жывой сіле і баявой тэхніцы, але не адмовіўся ад сваіх задум, вырашыўшы ўсе праблемы з дапамогай Мюнхенскіх пагадненняў дзякуючы патуранню Англіі і Францыі.

Савецкім войскам не давялося тады выконваць свае саюзніцкія абавязацельствы. Але пытанне, чаму ўсё ж Гітлер не прыняў сур'ёзна такую пагрозу, яшчэ патрабуе больш глыбокага вывучэння вучонымі. А сустрэцца на полі бою дзвюм краінам усё-такі давялося, хаця і не ў прамым проціборстве. Ішла грамадзянская вайна ў Іспаніі, куды Германія (а таксама Італія) адкрыта пасылала сваіх "добраахвотнікаў", а СССР адправіў сваіх, але аб гэтым у краіне нават не ўпаміналася, і такая забарона захоўвалася яшчэ многа-многа гадоў.

Пачатак новага, трыццаць дзевятага года, таксама выдаўся неспакойным. Грамадзянская вайна ў Іспаніі заканчвалася — рэспубліканцы яўна пацярпелі паражэнне. Але ўзнікла напружанне ў раёне Клайпеды і Данцыга ў сувязі з новымі германскімі прэтэнзіямі. І вось у гэтай абстаноўцы, калі недзе ў Іспаніі іх суайчыннікі страляюць адзін у аднаго, рэйхсканцлер Гітлер і паўпрэд Меракалаў амаль па-сяброўску гутараць.

Ясна, што дэталь гэтая не прайшла незаўважанай і стала прадметам размоў і здагадак прэсы і палітыкаў. Для ўсіх гэта быў сюрпрыз. Застаецца загадкай, ці з'явіўся ветлівы жэст фюрэра сюрпрызам для савецкага пасла.

На жаль, мала хто з савецкіх дыпламатаў пакінуў мемуары. Затое на Захадзе іх мноства. У прыватнасці, былы гітлераўскі генерал Курт Тыпельскірх у сваёй аб'ёмістай працы па гісторыі другой сусветнай вайны, закранаючы складаныя адносіны Германіі і СССР, піша, што ў трыццаць дзевятым годзе, "не збліжаючыся з Савецкім Саюзам палітычна, Гітлер пастараўся перамяніць тон у адносінах да яго... Рускія вырашылі парушыць сваю ранейшую стрыманасць і першыя сталі зандзіраваць глебу ў Берліне, што дазволіла неўзабаве зрабіць вывад аб іх імкненні да палітычнага ўзаемаразумення з Германіяй. Калі Гітлер прыняў гэтыя спробы вельмі асцярожна, то заходнія дзяржавы ў канцы сакавіка пачалі перагаворы з СССР".

Тыпельскірх не быў дыпламатам, ён праходзіў па разведвальнаму ведамству, але, трэба думаць, мог быць інфармаваны і аб знешнепалітычных справах. Хто першы пачаў, трэба яшчэ праверыць, але кантакты былі -- гэта дакладна.

У канцы жніўня 1939-га над светам нібыта ўзарвалася бомба: СССР і Германія, якія нядаўна кляймілі адзін аднаго на чым свет стаіць, нечакана для ўсіх падпісалі пакт аб ненападзенні. Ніхто яшчэ не ведаў, што да яго прыкладваўся сакрэтны пратакол, у якім быў зафіксаваны раздзел Усходняй Еўропы на сферы ўплыву паміж Масквой і Берлінам. Праз тыдзень Германія ўступіла ў Польшчу, а яшчэ праз 17 дзён савецка-польскую граніцу перасякла Чырвоная Армія. Як і прадугледжвалася ў сакрэтных дагаворанасцях, Польшча была падзелена паміж СССР і Германіяй па лініі рэк Нараў-Вісла-Сан.

Да гэтага часу робяцца спробы растлумачыць гэтую акцыю сугуба "клопатам аб бяспецы нашай краіны", імкненнем "адсунуць заходнія граніцы СССР" напярэдадні гітлераўскай агрэсіі, "прыйсці на дапамогу ўкраінскім і беларускім братам", што жылі ва ўсходніх раёнах Польшчы. Тут толькі адна частка праўды.

Другі, ценявы бок гэтай праўды заключаецца ў тым, што адраджэнне справядлівасці ў адносінах да Украіны і Беларусі суседнічала з "тэрытарыяльна-палітычнай перабудовай" у іншых землях, што не збянтэжыла Сталіна... Стаўшы на шлях падзелу здабычы з драпежнікамі, Сталін пачаў гаварыць мовай ультыматумаў і пагроз з суседнімі, асабліва малымі краінамі. Не палічыў ганебным прымяніць зброю -- так адбылося ў спрэчцы з Фінляндыяй. У вялікадзяржаўнай манеры ажыццявіў вяртанне ў склад Саюза Бесарабіі, узнаўленне Савецкай улады ў рэспубліках Прыбалтыкі.

Скінута покрыва сакрэтнасці са жнівеньскіх дагаворанасцей 1939 года паміж Гітлерам і Сталіным. Разам з ім — вера ў тое, што ўсе крокі даваеннага савецкага кіраўніцтва ў галіне знешняй палітыкі дыктаваліся толькі неабходнасцю забяспечыць бяспеку краіны. Былі ў іх дзеяннях і цынічныя разлікі, і імперскія амбіцыі, і пагарда да малых народаў суседніх дзяржаў.

А пакуль, пачынаючы з восені 1939 года, "поезд дружбы" паміж дзвюма дзяржавамі ўжо нёсся поўным ходам. Крытыка ў адрас Англіі і Францыі, што ўпершыню прагучала з вуснаў Сталіна на XVIII з'ездзе ВКП(б) 10 сакавіка 1939 года, набыла к гэтаму часу характар анафемы. Хлусня, якую падносілі сваім народам сталінскія і гітлераўскія кіраўнікі, літаральна не ўмяшчалася ў свядомасці. Яны аб'явілі падпальшчыкамі вайны Англію і Францыю, а сапраўдны агрэсар -- фашысцкая Германія -- апынуўся "ў становішчы дзяржавы, якая імкнецца да міру" і вядзе "справядлівую абарончую вайну". Больш таго, новаспечаныя саюзнікі нават не пасаромеліся пагразіць Захаду кулаком: "...У выпадку працягу вайны ўрады Германіі і СССР будуць кансультавацца адзін з адным аб неабходных мерах". Фюрэр, трэба меркаваць, быў задаволены. Чаканні Гітлера спраўдзіліся.

31 кастрычніка на сесіі Вярхоўнага Савета СССР прагучала сумна вядомая прамова Молатава, у якой ён заявіў: "Ідэалогію гітлерызму... можна прызнаваць ці адмаўляць... Любы чалавек зразумее, што ідэалогію нельга знішчыць сілай... Таму не толькі бессэнсоўна, але і злачынна весці такую вайну, як вайна за "знішчэнне гітлерызму", што прыкрываецца фальшывым флагам барацьбы "за дэмакратыю".

У друку цяпер не дапускалася ніводнага выпаду супраць нацызму. Фон Шуленбург паведамляў у Берлін: "Савецкі ўрад робіць усё магчымае, каб змяніць адносіны насельніцтва да Германіі. Прэсу як падмянілі. Не толькі спыніліся ўсе выпады супраць Германіі, але і падносімыя цяпер падзеі знешняй палітыкі заснаваны ў пераважнай большасці на германскіх паведамленнях, а антыгерманская літаратура знімаецца з кніжнага продажу і да т. п. Савецкі ўрад заўсёды адмыслова ўплываў у пажаданы для яго бок на сваё насельніцтва, і у гэты раз яно таксама не скупіцца на неабходную прапаганду".

Гэта так. Нават Лаўрэнцій Берыя ўнёс сваю долю ва ўмацаванне савецка-германскай дружбы, выдаўшы па ГУЛАГу загад, які забараняў наглядчыкам у турмах і лагерах называць зняволеных "фашыстамі" -- гэта слова перастала быць непрыстойным.

Гэта толькі потым, у трагічную нядзелю 22 чэрвеня 1941 года, Молатаў будзе граміць "кліку крыважэрных фашысцкіх кіраўнікоў Германіі". А пакуль савецкі прэм'ер па ўказанню Сталіна не ўпускаў ніводнай магчымасці расшаркацца перад Гітлерам з нагоды яго чарговых "бліскучых перамог". 9 верасня 1939 года ён віншуе Берлін з тым, што войскі вермахта ўвайшлі ў Варшаву. 9 красавіка 1940 года, калі гітлераўскія войскі ўварваліся ў Нарвегію і Данію, Молатаў заяўляе Шуленбургу, што савецкі ўрад з разуменнем ставіцца да гэтых "мераў" і жадае Германіі "поўнай перамогі ў яе абарончых мерапрыемствах". А 17 чэрвеня 1940 года, у дзень, калі пала Францыя, Молатаў выклікае да сябе Шуленбурга і выказвае "самыя цёплыя віншаванні савецкага ўрада з нагоды бліскучага поспеху германскіх узброеных сіл".

23 жніўня 1939 года пакт аб ненападзенні быў заключаны, дадатковы, што стаў сакрэтным, пратакол падпісаны. Рыбентроп па дарозе дамоў даваў інтэрв'ю ў аэрапорце Кёнігсберга: "Фюрэр паслаў мяне ў Маскву. Магчыма, гэта з'явілася нечаканасцю для многіх у Германіі. Аднак мы, нацыянал-сацыялісты, ведаем, што ўсё, што робіць фюрэр, — правільна. Расію зазывалі ў кальцавы фронт (у антыгітлераўскую кааліцыю). Але фюрэр яшчэ раз спрацаваў маланкава. Ён вырваў Расію з гэтага фронту. Вось вынікі гэтага 24-гадзіннага візіту".

А Гітлер адправіў пісьмо Мусаліні, у якім падвёў вынік дасягнутаму: "Гатоўнасць, што адкрылася пасля зняцця Літвінава, з боку Крамля пачаць пераарыентацыю сваіх адносін з Германіяй узмацнілася ў апошнія некалькі тыдняў і дала мне магчымасць пасля пасляховых прыгатаванняў адправіць майго міністра замежных спраў у Маскву для заключэння дагавора... Я ўпэўнены, што магу паведаміць Вам, што дзякуючы перагаворам з Савецкай Расіяй у міжнародных адносінах узнікла зусім новае становішча, якое павінна прынесці восі найвялікшы з выйгрышаў".

Іншымі словамі, Сталін прадаставіў Гітлеру унікальную магчымасць, аб якой германскі генералітэт безумоўна марыў з пачатку стагоддзя: разграміць Францыю, не баючыся ўдару з усходу, а потым, павярнуўшыся назад, накінуцца на Расію. Гітлер ацаніў гэта. Не дарма, ставячы Сталіна на адну дошку са сваім неразлучным сябрам Мусаліні, ён з трывогай гаварыў: "Як і смерць Сталіна, смерць дучэ можа пагражаць нам небяспекай".

23 жніўня 1940 года "Правда" надрукавала перадавы артыкул, у якім, у прыватнасці, гаварылася: "...наяўнасць савецка-германскага пакта... забяспечыла Германіі спакойную ўпэўненасць на Усходзе". Такім чынам, Сталін пацвярждаў, што Гітлер можа быць спакойны за свой усходні вал, у адкрытую нацкоўваў яго на Англію. І ў выніку гэтага 22 чэрвеня 1941 года Савецкі Саюз аказаўся ў палітычнай ізаляцыі.

Многае аб'ядноўвала Гітлера і Сталіна, але ў першую чаргу тое, увасабленнем чаго яны абодва з'яўляліся, -- дыктатура. Усе дыктатары вельмі любяць гаварыць аб "дабрабыце народа", "светлай будучыні" і да т. п. Пры гэтым не мае ніякага значэння, як вызначае сутнасць свайго рэжыму сам тыран. Дыктатура пазакласавая.

Пры ўсёй сваёй процілегласці палітычныя рэжымы Гітлера і Сталіна былі ў многім падобныя. Іх аб'ядноўвала беспрынцыпнасць, каварства і жорсткасць (нават у адносінах да сяброў), бязмежная прага ўлады, самая поўная нецярпімасць і прэтэнзіі на валоданне абсалютнай, амаль што боскай ісцінай. Вядома: культ асобы Адольфа Гітлера насаджаўся і працвітаў у Германіі ў не менш грандыёзных маштабах і фанатычнай форме, чым культ Сталіна -- у СССР. Германскае грамадства верыла фюрэру гэтак жа безагаворачна, як савецкае -- Сталіну.

Часта даводзіцца чуць, што Сталін зрабіў для нашай краіны больш, чым хто іншы, пераўтварыўшы яе з аграрнай у магутную індустрыяльную дзяржаву. Але ж тое самае зрабіў у сябе Гітлер, узнаўляючы магутнасць, страчаную Германіяй пасля першай сусветнай вайны, і нажываючы тым самым палітычны капітал.

Жорсткасць прапаганды, адзічэнне навукі, культуры, мастацтва з-за іх падпарадкаванасці ідэалогіі, тэрор супраць іншадумцаў і свабодна думаючых людзей, ліквідацыя праваруддзя, канцлагеры, катаванні -- усё гэта параўнальнае ў перадваенных Германіі і СССР, усюды знаходзяцца паралелі.

Мы павінны задумацца аб цане ўсіх сталінскіх дзеянняў -- не толькі яго няўдач, але і поспехаў, так званых дасягненняў. За ўсё мы расплачваліся мільённымі ахвярамі, кроўю і слязамі: і за калектывізацыю, і за індустрыялізацыю, і за "мудрую" сталінскую перадваенную дыпламатыю. У гэтай сувязі дарэчы ўспомніць 355-гадовы афарызм Франсуа дэ Ларошфуко: "Слава вялікіх людзей заўсёды павінна вымярацца спосабамі, якімі яна была дасягнута".

31 жніўня 1939 года Вярхоўны Савет СССР адзінагалосна ратыфікаваў савецка-германскі пакт аб ненападзенні. "Мы перасталі быць ворагамі", -- сказаў на сесіі Молатаў. Аб дадатковым пратаколе, вядома, не было сказана ні слова.

У гэты ж дзень дагавор быў ратыфікаваны і ў Берліне. Там таксама спяшаліся. Праз суткі Германія напала на Польшчу. Да пачатку Вялікай Айчыннай заставалася менш двух гадоў...

**Ігар КУЗНЯЦОЎ,**
**кандыдат гістарычных навук,**
**дацэнт.**



**У памяць аб загінуўшых ад чарнобыльскай катастрофы вёсках Хойніцкага раёна і людзях, якія пакінулі наседжаныя месцы, адкрыты манумент у раённым цэнтры -- горадзе Хойнікі.**

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**

## ПАМЯЦІ "КАПІТАНА ТАЦЦЯНЫ"

У Гомелі на 82-м годзе жыцця пасля працяглай хваробы памёр Герой Савецкага Саюза, ганаровы грамадзянін Парыжа, камандзір эскадрыллі "Нармандыя-Нёман" Васіль Сярогін.

Гэта імя ў час вайны грымела на многіх франтах -- Паўднёвым, Цэнтральным, Заходнім і 3-м Беларускім, адных натхняючы і зачароўваючы, іншых (фашысцкіх лётчыкаў) прыводзячы ў жах.

Старэйшае пакаленне помніць Сярогіна таксама па фільму "Нармандыя-Нёман", у якім праслаўленага лётчыка іграў вядомы савецкі кінаакцёр Мікалай Рыбнікаў. Высокае званне Васілю Георгіевічу было прысвоена за 580 баявых вылетаў і 34 збітыя варожыя самалёты. Ён быў узнагароджаны 15 баявымі ордэнамі і медалямі. Прымаў удзел у аперацыі "Баграціён" па вызваленню Беларусі.

Сярогін быў такім сціплым, так пазбягаў папулярнасці, што пасля вайны, аж да сямідзесятых гадоў, многія лічылі яго загінуўшым. Затое калі прыязджаў у Францыю, яму, як вялікаму сябру гэтай краіны, аказвалася асобая пашана -- не толькі жыць у палацы караля Людовіка XVI, але і спаць на яго ложку. А яшчэ яго любілі за велікадушнасць, шчодрасць і песні. У кругу баявых сяброў ён быў вядомы як "капітан Таццяна". Гэтую сімпатычную мянушку "прыклеілі" яму сябры за песню "Таццяна", якую Сярогін любіў напяваць, акампануючы сабе на баяне ў перапынках паміж палётамі.








**Майстэрства віцебскіх мастакоў Таццяны і Юрыя Рудэнкаў вядомае ў нашай рэспубліцы, у Германіі, Ізраілі, Польшчы і іншых краінах.**

**У мінулым годзе ў Амерыцы выпушчаны альбом, куды ўвайшло 165 рэпрадукцый работ віцебскіх мастакоў. Ілюстрацыі суправаджаюцца паэтычнымі ўрыўкамі з вершаў Мандэльштама, Лоркі, Ахматавай, Брусава, Рыльке. "Габелены", "Афармленне сцэны", "Заслоны", "Работы ў змешанай і аўтарскай тэхніцы", "Батык-тэмпера-вышыўка" і, нарэшце, "Ювелірныя вырабы" -- усе пяць раздзелаў кнігі дазволяць блізка пазнаёміцца з творчасцю сямейнага дуэта Рудэнкаў.**

**НА ЗДЫМКАХ: Таццяна і Юрый РУДЭНКІ; рэпрадукцыі з кнігі.**

**Фота Аляксандра ХІТРОВА.**

# АЛЯКСАНДРА САКОВІЧ (ІНА РЫТАР). ЖЫЦЦЁ І ТВОРЧАСЦЬ

**(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).**

што на Навáградчыне. Бацька служыў на адэскай чыгунцы, маці выхоўвала дзяцей, якіх у сям'і было чацвёра. Пазней у сваіх успамінах Іна Рытар напіша пра Адэсу свайго дзяцінства: "У канцы XIX стагоддзя, толькі за 100 год свайго быцця, Адэса займала адно з першых месцаў сярод гарадоў Расійскай імперыі. Гэта надзвычайна прыгожае, багатае места, раскінутае на беразе Чорнага мора, было вузлавою станцыяй Паўднёва-Заходніх чыгунак і адным з найважнейшых портаў... Царскі ўрад, вельмі зацікаўлены ў росце жыхарства гэтага места, на працягу стагоддзя дарыў яго надзвычайнымі прывілеямі. Тут не вельмі сурова глядзелі на бяспашпартнага, і ў часы прыгону нат прыгонны ўцеклы селянін знаходзіў прыпынак.

Было ў Адэсе лёгка знайсці работу і добра зарабіць. Добры заработак і прывілеі, якімі не карысталіся іншыя месты, вабілі да сябе людзей. Яны наплывалі са шмат якіх краёў. Дзякуючы спецыфічным умовам свайго развою, тут было жыхарства розных нацыянальнасцяў. На вуліцах Адэсы, апрача моваў украінскай і расійскай, можна было пачуць і іншыя мовы. Было тут вялікае мноства грэкаў, былі татары, румыны, малдаване, жыды, караімы, немцы, палякі і інш.

Надзіла да сябе Адэса і беларусаў. Шырокай хваляй крануліся і яны туды на жыццё. Беларуская інтэлігенцыя -- вучыцелі, дактары, адвакаты сяліліся ў цэнтры места. Але іх было не шмат. Бальшыня была сялян. Прыязджаючы, яны ўладкоўваліся дворнікамі, вартаўнікамі. Жанчыны -- хатнімі найміткамі. Але галоўная маса ішла рабіць у чыгуначныя майстэрні або на чыгунку стрэлачнікамі, сцэпшчыкамі, канцэлярыстамі і інш. Дзеля таго, блізка чыгункі па ўскраінах места, пасяляліся цэлыя калоніі беларусаў. На Бліжніх Млынох, на Малдаванцы, на Сахалінчыку, на Пярэсыпе на кожным кроку можна было пачуць беларускую мову. Беларусы нат мелі сваю вулачную мянушку -- лапацоны...

У 1915 годзе, у часе першае сусветнае вайны, новая вялікая хваля беларусаў нахлынула ў Адэсу. Гэта былі ўцекачы з Віленшчыны, Навáградчыны, Горадзеншчыны й Меншчыны... Рэвалюцыя прынесла яшчэ адну хвалю беларусаў у Адэсу. Гэта вайскоўцы беларусы, што ў часе рэвалюцыі былі на румынскім фронце. Бальшыня з іх -- свядомыя беларусы-адраджэнцы. Іхнія ідэалы -- вольная незалежная Беларусь. Акалічнасці складаліся так, што ў той час яны не маглі звярнуцца на бацькаўшчыну. Але яны шырока разгарнулі сваю нацыянальную дзейнасць сярод беларусаў Адэсы. Адэскі беларус, асабліва чыгуначнік, ніколі не губляў сувязі з бацькаўшчынай. Кожны чыгуначнік карыстаўся для сябе і сваёй сям'і дармавымі білетамі.

Лета адэскае гарачае, няпрывычнае беларусу. Дзеля таго шмат хто на лета ехаў дамоў да Беларусі. Маці збіралася і казала, што едзе дахаты, а за ёй і дзеці, якія нарадзіліся ў Адэсе, паўтаралі, што едуць на ўсё лета дахаты, і там сапраўды чакала свая хата, дзядуля з бабуляй, садок са старымі высокімі вішнямі, ігрушамі ды яблынямі, зялёныя сенажаці, лясы, чысты, празрысты Нёман..."

Любоўю да роднага кута маці надзяліла і дзяцей, пасяліла веру ў тое, што на бацькаўшчыне, дзе карэнні роду, заўсёды знойдзецца душэўны спакой і прытулак. І яшчэ -- з маленства ад маці, якая здолела сабраць у доме даволі багатую бібліятэку, Іне Рытар перадалася вялікая любоў да кнігі. У 6-гадовым узросце будучая пісьменніца паступіла ў адэскую жаночую гімназію (1912), дзе вучылася і яе старэйшая сястра Ліда. У гэты час у Адэсе актыўна вялася беларуская грамадская праца. Беларусы мелі свой клуб, бібліятэку, дзе былі кнігі Я. Купалы, М. Багдановіча, Я. Коласа, А. Гаруна, Ядвігіна Ш., многіх іншых пісьменнікаў, дзейнічалі тэатральная трупа і хор, ладзіліся спектаклі, канцэрты, літаратурныя вечарыны. Ставілі п'есы: "Паўлінка", "Модны шляхцюк", "Чорт і баба", дэкламавалі вершы, спявалі беларускія песні. Усё гэта звязвала з далёкай бацькаўшчынай, аб'ядноўвала, рабіла нацыянальна свядомымі і тых беларусаў, якія нарадзіліся ў Адэсе.

Аднак у сувязі з ваеннымі, рэвалюцыйнымі падзеямі надышлі цяжкія дні і для жыхароў Адэсы. Голад, хваробы, частыя змены ўладаў прымусілі і беларусаў шукаць выйсце, ратаваць дзяцей. Былі арганізаваны дзіцячыя дамы ў прыгарадзе Адэсы -- Аркадыі. Выхавальнікамі, настаўнікамі ў іх працавалі маладыя беларусы -- студэнты і вучні старшых класаў гімназій, а таксама вядомыя дзеячы беларускага адраджэння, якія на той час знаходзіліся ў гэтых краях: Пётра Ілючонак, Рыгор Козел, Сцяпан Некрашэвіч, Антон Баліцкі, кіраўніком дзіцячага дому быў прызначаны Міхайла Грамыка, беларускую літаратуру і мову для дзяцей выкладаў М. Піятуховіч, матэматыку -- Я. Аляхновіч, працавалі іншыя высокакваліфікаваныя выкладчыкі, выхавальнікі, у тым ліку і Ліда Рытар, якая пазней стала жонкай вядомага беларускага паэта і празаіка, вучонага-геолага Міхайлы Грамыкі. Але становішча пагаршалася з кожным днём, і многія беларусы з дзецьмі ў 1921 годзе выехалі на Беларусь. Так Іна Рытар разам з сястрой Лідай апынулася ў Мінску. Ліда ўладкавалася інспектарам дзіцячых прытулкаў, пазнаёмілася з жонкай Янкі Купалы Уладзіславай Францаўнай, якая працавала загадчыцай аднаго з дзіцячых садоў. Купалы жылі тады пры гэтым садзе, там жа меў сабе пакой і Змітрок Бядуля. Блізкай сяброўкай Ліды была Юлія Бібіла, якая стала вядомым беларускім бібліёграфам. Яна шмат дапамагала Іне Рытар у вывучэнні беларускай мовы, літаратуры, гісторыі, часта расказвала маладой дзяўчыне пра Кастуся Каліноўскага, крэўнага ёй па маці. Іна была тады студэнткай Белпедтэхнікума, дзе вучыліся многія будучыя беларускія таленавітыя паэты і празаікі.

З 1925 года Іна Рытар становіцца студэнткай гістарычнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта, які зрабіў вялікі ўплыў на яе светапогляд, пакінуў дарагія ўспаміны. Тут яна спаткалася і пасябравала з "Раднёю" -- так жартам называлі сябе свядомыя беларускія студэнты. У сваім асяроддзі "Радня" не баялася выказваць асабістыя погляды на палітычнае становішча Беларусі, нацыянальныя праблемы. Уваходзілі ў "Радню" як маладыя студэнты, так і старэйшыя -- ветэраны першай сусветнай і грамадзянскай войнаў, многія ўдзельнікі руху за незалежнасць Беларусі. Старэйшыя вымушаны былі, акрамя вучобы, яшчэ і працаваць, каб утрымліваць сем'і.

З успамінаў Іны Рытар "Да гісторыі Беларускага Дзяржаўнага універсітэту" мы даведваемся пра сапраўдную гісторыю яго заснавання, якая разыходзіцца з пазнейшай афіцыйнай версіяй. Пісьменніца падкрэслівае, што БДУ "быў пакліканы да жыцця ў 1921 годзе ахвярнаю працаю беларускіх грамадскіх працаўнікоў, а не бальшавіцкаю ўладаю, як гэта цяпер часта падаецца ў савецкім друку".

Кожнаму, хто цікавіўся пытаннем вышэйшай школы ў Беларусі, вядома, што краіну, вялікую абшарам і насельніцтвам, слаўную некалі як цэнтр высока развітой культуры і мастацтва, расійскі ўрад пазбавіў вышэйшай школы амаль на цэлае стагоддзе. Ад 1832 аж да 1921 года Беларусь не мела вышэйшых навучальных установ. Праз увесь гэты час расійскі ўрад праводзіў сістэматычную русіфікацыйную палітыку і, не зважаючы на неаднаразовыя захады, не даваў дазволу на адкрыццё вышэйшай школы. Расійскія ўлады добра разумелі, што вышэйшая школа ў Беларусі магла стаць асяродкам апазіцыйнага нацыянальна-палітычнага і культурнага руху. Беларусь жа, пазбаўленая сваёй высокай школы, паступова ператваралася ў расійскую калонію, заняпалую культурна і эканамічна.

У 1918 годзе, адразу пасля абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі, у беларускім друку ўзнімаецца пытанне аб неабходнасці адкрыцця беларускага універсітэта ў Мінску. Былі распрацаваныя і два праекты універсітэцкіх статутаў. Адзін з іх уклаў прафесар М.Доўнар-Запольскі, другі -- акадэмік Карскі. Яны былі разгледжаны Сакратарыятам БНР. Хоць ніводзін з гэтых праектаў і не ўдалося тады здзейсніць, бо ўраду БНР прыйшлося хутка эмігрыраваць, аднак ідэя адкрыцця універсітэта захоўвала сваю актуальнасць сярод тых беларускіх дзеячаў, якія засталіся для грамадскай працы ў Беларусі, засталіся свядома, бо былі ўпэўнены, што новая акупацыйная ўлада нясе тую ж нацыянальную няволю, што і былая царская. У сваёй прамове з прычыны смерці А.Бурбіса ў 1922 годзе Язэп Лёсік гэтую думку падкрэслівае выразна і без страху словамі: "Ты не дайшоў яшчэ да Абяцанае Зямлі, не дойдзе яшчэ шмат хто з нас, бо ўсе мы ў няволі нарадзіліся і мусім памерці, як тое яўрэйства, што вадзіў Майсей па пустыні..."

Шмат энергіі й стараннаў трэба было прыкласці Усеваладу Ігнатоўскаму, Аляксандру Чарвякову, Язэпу Лёсіку, Сцяпану Некрашэвічу і іншым, каб пад няспынным бальшавіцкім кантролем і перашкодамі ідэя адкрыцця беларускага універсітэта не была пахаваная, а ператварылася ў рэальнасць. 30 кастрычніка 1921 года адбылося фактычнае адкрыццё БДУ, першым рэктарам якога быў зацверджаны прафесар Уладзімір Пічэта...

І хоць універсітэт быў заснаваны ў цяжкі пасляваенны час, пры амаль цалкам разбуранай (рэвалюцыяй, грамадзянскай вайной, нямецкай і белапольскай акупацыямі) гаспадарцы Беларусі, не меў адпаведнага будынка, навуковага абсталявання, студэнтам даводзілася слухаць лекцыі ў халодных аўдыторыях, аднак панаваў у студэнцкім і прафесарскім асяроддзі вялікі энтузіязм. Жыла вера ў лепшую будучыню беларускага народа, яго незалежнасць, моцна біўся пульс свежай навуковай думкі, скіраванай на развіццё беларускай мовы, вывучэнне гісторыі Беларусі, фарміраванне кадраў нацыянальнай інтэлігенцыі. Выкладанне вялося на беларускай мове, працы многіх прафесараў БДУ друкаваліся не толькі ў Беларусі, але і ў Чэхіі, Германіі, Францыі, Аўстрыі, куды часта камандзіраваліся беларускія навукоўцы, асобнымі выданнямі выходзілі "Працы БДУ" (дарэчы, зборнік такіх прац ад 1921--1932 гадоў ёсць у Нью-Йоркскай публічнай бібліятэцы, які Іна Рытар мела магчымасць перачытваць, эмігрыраваўшы ў Амерыку. -- **Л.С.**). Студэнты мелі магчымасць слухаць лекцыі такіх прафесараў, як Мітрафан Доўнар-Запольскі, Усевалад Ігнатоўскі, Уладзімір Пічэта, Васіль Дружчыц, Іван Замоцін, Уладзімір Перцаў, і інш. Іне Рытар пашчасціла яшчэ і ў тым, што ў свае маладыя гады яна знаходзілася ў самым цэнтры беларускага інтэлектуальнага і творчага асяродка. Жывучы ў доме Грамыкаў, затым у Лёсікаў, будучая пісьменніца часта сустракалася на правах блізкага чалавека з Янкам Купалам і Уладзіславай Францаўнай, Якубам Коласам, Змітраком Бядулем, пакінула пра гэтыя сустрэчы цікавыя ўспаміны: "Мне прыгадваецца ранні цёплы вечар у садзе Грамыкаў, першае зжоўклае лісце на траве, Я.Купала, Я.Лёсік і М.Грамыка ля садовага стала... Я сядзела недалёка ад іх і чытала кніжку... Першы раз я пабачыла Я.Купалу і ягоную жонку ў 1921 годзе на каляднай ялінцы ў дзіцячым доме... Чатыры маладзенькія настаўніцы і госці, паміж якіх і я са сваёй старэйшай сястрой Лідай, зышліся ў невялікай зале. Святочна прыбраная, зала выглядала па-свойму ўтульна. Усё было гатова. Чакалі толькі Я.Купалу.

Ён прыйшоў разам са сваёй жонкай. Малыя пасаскоквалі з лаваў і цесным колам абступілі Купалаў... Я глядзела на Янку Купалу ўва ўсе вочы. Бачыла светлыя мяккія валасы, акуратна расчасаныя на радок, правільныя рысы твару і ласкавую ўсмешку вачэй".

**Лідзія САВІК.**

**(Працяг будзе).**

*ЛЮБЫЯ СЭРЦУ МЯСЦІНЫ*

# ЗА МАР'ІНАЙ ГАРОЙ ЯК ЗА СЦЯНОЙ

З энцыклапедыі : "Мар'іна Горка, горад, цэнтр Пухавіцкага раёна на р. Цітаўка. Чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск -- Асіповічы, аўтамаб. дарогамі злучана з Мінскам, Бабруйскам, Чэрвенем, Уздой...". І далей (пра тыя гаспадарчыя аб'екты, што месцяцца ў горадзе): "Філіял Мінскага малочнага камбіната, вінзавод, хлебапякарня, элеватар, ліцейна-мех. з-д, ільнозавод, ф-ка загатовак Мінскага вытв. абутковага аб'яднання "Прамень", сельскі буд. камбінат, камбінат быт. абслугоўвання, Пухавіцкае раённае аб'яднанне Сельгастэхнікі, лясгас, аграметэастанцыя. Саўгас-тэхнікум, 4 сярэднія, музычная і дзіцяча-юнацкая спарт. школы, 3 дашкольныя ўстановы, Дом піянераў і школьнікаў, Дом культуры, 2 бібліятэкі, бальніца, санаторый "Пухавічы". Выдаецца газ. "Сцяг працы".

Энцыклапедычным гэтым радкам няма яшчэ і двух дзесяткаў гадоў, а вось і іх трэба ўжо рэдагаваць.. Зачыніўся "Прамень". Рабочыя ( у асноўным -- жанчыны) выстраіліся ў дружную чаргу на біржы працы. Школ у горадзе на адну больш стала. Змяніла сваю назву "раёнка". Цяпер ужо -- "Пухавіцкія навіны". Нават помнік-гармата змяніў п'едэстал. Раней напамінак аб вызваліцелях горада сустракаў гасцей пры ўездзе ў Мар'іну Горку з мінскага боку. Ды некалькі аварый (гармата закрывала вадзіцелям кругагляд) прымусілі перанесці помнік бліжэй да цэнтра.

Што ж да гісторыі, то яна засталася ў Мар'інай Горкі ранейшай.

Вядомая Мар'іна Горка як паселішча з XVI стагоддзя. Здавалася б, што можа быць адметнага ў такой нескладанай назве. Іншая справа -- Магілёў, Віцебск. Тут ужо за назвамі -- легенды, паданні адметныя. А Горка, яна і ёсць горка, гара -- узвышша. Дадайце асабовае імя -- вось і атрымалася Мар'іна Горка. Ды гэта ж толькі паверхня тапанімічнага айсберга. Большую яго прастору прыадчыняе легенда, захаваная ў часе і неаднойчы даследчыкамі мінулага стагоддзя занатаваная. Вось што пакінуў нам падарожнік Павел Шпілеўскі. У надрукаваным у часопісе "Современник" ( у сярэдзіне мінулага стагоддзя) "Путешествии по Полесью и Белорусскому краю" ён пісаў: "Название Марьиной произошло от того, что на этой горе построена приписная новоселковская церковь по случаю явления на этом месте чудотворного образа "Пресвятыя Марии девы Богородицы". В честь этого явления и сама церковь на горке называется Марьиногорской. Первоначальное предание о Марьиной Горке восходит к самому отдаленному времени. Когда именно, не говорят, но очень давно, замечают старожилы, на этой горке было языческое кладбище, а там совершались тризны и, как сказано в письме одного старца Грозовского монастыря (копия письма хранится у слуцкого обывателя господина А. С.), пляски на большом камне, который стоял посреди горы... Впоследствии, -- сказано в том же письме, -- проезжал через этот край один христианский священник и, заметив такое скверненie людское, возжелал уничтожить оное и освятил святой водой: отчего гора распалась и камень провалился... Испуганные язычники обратились к священнику и, считая его сильнее своего бога, просили у него креститься..." Гора, действительно, как бы раздвоена в настоящее время -- не знаю, хранится ли внутри горы камень..."

З 1793 года, тады, канешне ж, яшчэ вёсачка Мар'іна Горка -- у складзе Расійскай імперыі разам з усім Ігуменскім паветам. Да месца, відаць, будзе патлумачыць, што ж гэта за тагачасная сталіца -- Ігумен, ушанаваная нават у назве адной з цэнтральных мінскіх вуліц? Цэнтрам павета, куды ўваходзіла вёска Мар'іна Горка, з'яўляўся Чэрвень (хіба ж магла Савецкая ўлада пакінуць рэлігійную назву -- Ігумен). А горад быў незвычайна загадкавы, ціхі, прыхаваны ад шырокіх дарог. Меў свой герб з пчолкамі, стомленымі ад медазбору.

Мар'іна Горка і жыла пад уплывам Ігумена, усяе ігуменскай старонкі. Ваколіцамі Мар'інай Горкі прайшліся паўстанцы Тадэвуша Касцюшкі. Закранула тутэйшыя землі і Айчынная вайна 1812 года. У самой Мар'інай Горцы спалілі царкву французскія салдаты. А што датычыць ваколіц, то і такі след ёсць непадалёку ад горада, на мяжы ўжо Пухавіцкага і Асіповіцкага раёнаў. Дзве вёсачкі маюць дзіўна-вызначальныя, ёмістыя назвы -- Французская Грэбля і Зафранцузская Грэбля (грэбля -- гэта значыць, насыпаная сярод балота, лугавіны заліўной дарога).

Жыхары Мар'інай Горкі ўдзельнічалі і ў паўстанні 1863--1864 гадоў. Словам, уся гісторыя Беларусі -- у гісторыі Мар'інай Горкі. А што ж прыкметы гісторыі, у чым яна -- памяць сівой мінуўшчыны -- выяўляецца зараз, сёння? Давайце паспрабуем зрабіць па Мар'інай Горцы невялікую экскурсію. Не трэба шукаць зручны транспарт -- пройдземся пешшу.

А завітаць спярша можна на тэрыторыю абласнога дзіцячага санаторыя "Пухавічы". Звычайна ўсе ранейшыя гаспадары якраз у яго межах ладзілі свае сядзібы. Гаспадарылі ж у Мар'інай Горцы, акрамя славутых Радзівілаў, Бужынскія, Ратынскія, Крупскія. Пасля 1863 года маёнтак стаў належаць міністру ўнутраных спраў Расіі Л. Макаву. Гэта сведчыць пра тое, што папярэдні гаспадар з'яўляўся актыўным прыхільнікам ці, магчыма, удзельнікам паўстання Кастуся Каліноўскага. І вось адабралі маёнтак на карысць высокага чыноўніка. І тут у хуткім часе пачалося будаўніцтва Лібава-Роменскай чыгункі. Станцыю мар'інагорскую назвалі чамусьці Пухавічы. Па сённяшні дзень ідзе блытаніна. Прыязджаюць людзі чыгункай у райцэнтр і пытаюцца, як ім патрапіць у Мар'іну Горку. Альбо некаму трэба ў сапраўдныя Пухавічы (мястэчка за 7 кіламетраў ад горада), таксама дзівяцца, што некуды ім трэба ехаць.

**(Заканчэнне на 8-й стар.).**



**Пры Аснежыцкім раённым цэнтры культуры Пінскаага раёна працуе тры аматарскія аб'яднанні -- фальклорнае "Спадчына", маладзёжнае "Гаспадынька" і харавое. Тут праходзяць конкурсы, канцэрты, фестывалі.**

**НА ЗДЫМКУ: удзельнікі аб'яднання "Спадчына" Ірына ГРЫЦЭНЯ, Вера ВАСКАЛЕЙ, Ніна ВАСКОВІЧ, Таццяна ПАЛЮХОВІЧ і Ева КАЛЮТА на рэпетыцыі.**

**Фота Рамана КАБЯКА.**

## ПЕРШЫЯ -- "КРУПІЦКІЯ МУЗЫКІ"

Галандскі горад Брунсум у ліпені месяцы прымаў удзельнікаў першай Сусветнай фальклярыяды. Гэта адбылося дзякуючы ініцыятыве ЮНЕСКО і Міжнароднага савета арганізацыі фестываляў фальклору і традыцыйных мастацтваў.

Нашу краіну сярод іншых удзельнікаў фестывалю з 62 краін свету прадстаўляў вядомы фальклорны ансамбль "Крупіцкія музыкі".

Беларускія артысты выступалі на ўрачыстым адкрыцці і закрыцці фальклярыяды, удзельнічалі ў многіх канцэртах на розных фестывальных пляцоўках горада. Улічваючы тое, што на канцэртах прысутнічалі да дзесяці тысяч чалавек, а ўрачысты парад фестывалю бачылі звыш 120 тысяч гледачоў, з самабытным мастацтвам "Крупіцкіх музыкаў" пазнаёмілася велізарная колькасць людзей не толькі з Галандыі, але і тых, што прыбылі на свята з Германіі, Бельгіі і іншых краін. Шырока асвятляўся фестываль у сродках масавай інфармацыі, а таксама галандскімі, нямецкімі, бельгійскімі, японскімі тэлекампаніямі. Высокая сцэнічная культура, віртуознае валоданне нацыянальнымі інструментамі, беражлівае выкарыстанне фальклору, прыгожыя касцюмы беларускіх музыкаў былі высока ацэнены спецыялістамі з Расіі, Чэхіі, Турцыі, Літвы.

Наступная, ужо другая Сусветная фальклярыяда, пройдзе ў Японіі. Адбудзецца яна ў 2000 годзе, і Беларусь зноў запрошана стаць яе ўдзельніцай.

# АКВАРЭЛІ З БРАСЛАВА

ТЫХ, ХТО ЗАЧЭПІЦЦА вокам за гэтыя радкі, маю намер пазнаёміць з мастаком, дакладней -- з нечаканым светам, што трывае ў ягоных творах. На кароткі час лёс закінуў мяне ў Браслаў, мястэчка, адметнае прыроднымі, геаграфічнымі, культурнымі ды гістарычнымі асаблівасцямі. Браслаў -- цэнтр азёрнага краю. Словаспалучэнне "Браслаўскія азёры" -- на слыху ў большасці беларусаў. Як і Полаччына, Браслаўшчына -- традыцыйны абшар археалагічных даследаванняў. Шмат чаго можна распавесці пра гэтыя мясціны. У блізкія ж ад Браслава Друю і Відзы (білет у аўтобуснай касе каштуе ўсяго восем тысячаў рублёў) так проста цяпер не трапіш: патрэбны асобны дазвол ці мясцовая прапіска ў пашпарце: пагранічная зона. Сапраўды, кіламетраў за сорак знаходзіцца латвійскі Даўгаўпілс, а ў яснае надвор'е з Замкавай гары відаць Ігналінскую АЭС у Літве. Але каб гэта сталася перашкодаю для пілігрымкі ў Відзы ці Друю з іх выдатнымі помнікамі даўніны -- недарэчнасць.

Браслаў -- мястэчка сапраўды маляўнічае і старажытнае. Мясцовая каталіцкая парафія сёлета адлічвае 572 гады ад свайго ўтварэння. У XIV стагоддзі кароль і вялікі князь Ягайла з жонкаю Ядвігаю любаваліся азёрным краявідам са згаданай гары, што ў цэнтры сучаснага мястэчка. Шануюць у Браславе памяць свайго грамадзяніна, доктара Станіслава Нарбута, нашчадка слыннага паўстанца 1863 года. Станіслаў Нарбут, лекар высокай кваліфікацыі, шмат добрага зрабіў для аховы здароўя гэтага краю. Некалькі год таму на надмагільным абеліску з'явілася металічная пліта з надпісам:

**STANISLAU OSCIK NARBUTT**
**1853--1926**
**LEKARU UDZIACNAJA**
**BRASLAUSCYNA**

Пад надпісам -- "Пагоня".

У мястэчку працуе краязнаўчы музей, выставачная зала, ладны і прасторны Дом рамёстваў; ёсць касцёл і царква, тры школы, мае адчыніць дзверы ліцэй; ёсць шпіталь і паліклініка; санаторый для падлеткаў, хворых на сухоты. Гэта зусім не забыты ўскраек Беларусі. Зычлівыя і працавітыя браслаўцы дбаюць не толькі пра хлеб надзённы (дарэчы, вельмі смачны: батон звычайны тут бялейшы ды смачнейшы за такі ж у сталічнай краме), але і пра хлеб духоўны.

Вось жа зусім нечакана ў адзін з дзён канца ліпеня, калі канчаўся кароткі побыт у Браславе і да аўтобуса на Мінск заставалася няшмат часу, сябры прапанавалі пайсці на адкрыццё выставы тутэйшага мастака. Дом рамёстваў, дзе ладзіўся вернісаж, недалёка ад аўтастанцыі, і я згадзіўся. Імя мастака -- Цеафан Баркоўскі -- мне нічога не гаварыла. Але сябры ўпэўнілі, што расчаравання не будзе. У горадзе ж адкрыцця выставы чакалі і рыхтаваліся да яго. Не зважаючы на пагодны дзень канца тыдня, многія адклалі надзённы клопат, убраліся ў выхадныя строі і прыйшлі да свайго знаёмага, калегі, проста земляка, каб ушанаваць ягоны талент і плён працы апошняга часу. Мастака тут добра ведалі, цанілі і любілі.

І вось стаў глядзець я работы -- акварэлі, блізу пацідзесяці твораў. І дзіўнае ўражанне яны зрабілі на мяне. Напачатку быццам нічога асаблівага -- пейзажы, краявіды блізкага і далёкага наваколля. Але бываюць выпадкі, калі, напрыклад, у нейкай кампаніі цябе знаёмяць з жанчынаю, на якую сам не звярнуў бы ўвагі і не вылучыў бы з натоўпу: някідкая. А праз нейкі час усведамляеш: яна ж прыгажуня. І чым далей, тым больш захоплівае чар яе прыхаванае красы. Так здарылася і тут, з гэтымі акварэлямі. Першы снег, дождж, вясновы краявід... Тысячы гадоў сотні і сотні мастакоў выяўляюць гэтыя сюжэты. Але г э т а м у мастаку, як мала каму, удаецца перадаць настрой прыроды ў розных яе станах. Гэта зусім не падабенства ці адлюстраванне, а менавіта настрой, які ўзрушвае глыбінныя сховы душы. Не ўсе, але ж большасць твораў сапраўды богатхнёныя, духоўна насычаныя. Першавясновыя краявіды, калі ў прыродзе найперш мяняецца святло і паветра, -- гэта не карціны ў раме, а жывое акно ў іншы час і прастору; з гэтага акна ідзе пах талае вады і ліецца святло абуджэння. Яны сапраўды нясуць дабравесце...

Як мала каму, гэтаму майстру ўдаецца перадаць тканіну, субстанцыю дажджу, паветра, вады... Напэўна, гэта тэхніка, выдатнае валоданне фарбамі, паперваю, пэндзлем. Але ж тэхнікай усё не патлумачыш. Жыў у XIII стагоддзі адзін слуга божы, Дзівак, закаханы навакольным светам -- Францішак з Асізу. Ён любіў не чалавецтва, а кожнага чалавека; не прыроду, а кожную яе праяву, кожнае стварэнне. Ён казаў "брат агонь", "брат воўк", "сястра вада", "браце дождж" і нават "сястра мая, смерць"... Дык вось, такое ж адчуванне братэрства, роднасці прыроды -- вады, снегу, зямлі, паветра -- прысутнічае ў акварэлях нашага майстра, Цеафана Баркоўскага з Браслава. Чалавек ён гадоў блізу сарака, высокі, хударлявы. Калісьці сур'ёзна займаўся альпінізмам, заўзяты рыбак; з сынам і жонкаю стала жыве ў Браславе, выкладае ў школцы. Мастак прафесійны, віцебскай школы.

Захапіўшыся акварэлямі, ледзь не спазніўся на аўтобус. Сышоў, нават не паціснуўшы руку мастаку і не наладзіўшы асабістага знаёмства. Шкадую: дзе і калі зноў апынуся ў жыццядайным святле ягоных твораў?

**Зьміцер КАЛІСТРА.**

# ЗА МАР'ІНАЙ ГАРОЙ ЯК ЗА СЦЯНОЙ

(Заканчэнне. Пачатак на 7-й стар.).

Маўляў, мы ж і так у Пухавічах. А легенда патлумачвае сакрэт такой "мудрасці" наступным чынам. План чыгункі складалі ваенныя тапографы. Яны і выбралі лепшы маршрут праз мястэчка Пухавічы. Як ні стараўся Макаў, ніяк не мог угаварыць правесці чыгунку паўз яго маёнтак. Непадкупнымі аказаліся службоўцы нават перад міністрам унутраных спраў. А яму ж, як гаспадару, не хацелася траціцца на лішнія раз'езды. Тым больш, дзякуючы чыгунцы, Макаў меркаваў больш актыўна заняцца гандлем. І ўсё ж свайго міністр дамогся: падкупіў будаўнікоў. А апошнія пайшлі на хітрыкі: у Мар'інай Горцы на шыльдзе станцыйнай вывелі: "Пухович". Так гэта ці не, але падставы для стварэння такой легенды, як бачыце, ёсць.

І калі вы трапілі па вуліцы Кастрычніцкай на тэрыторыю санаторыя, то падыдзіце да будынка, пазначанага нумарам 2. Раней вакол гэтага сядзібнага дома быў багаты парк (захавалася адна алея) і альтанка з высаджанымі ў круг ліпамі (каля спуску да ракі Цітаўка). Што да гісторыі дома, то пабудаваны ён у 1876 годзе з цэглы ў адзін паверх з высокім яшчэ цокальным паверхам. Даследчыкі сцвярджаюць, што будынак з'яўляецца помнікам эклектычнай архітэктуры.

У будынку з 1935-га да 1941-га года быў Дом творчасці пісьменніка, аб чым сведчыць мемарыяльная дошка. А ў санаторыі ёсць і музей, прысвечаны Дому творчасці. Калі наведаецеся туды і для вас правядуць экскурсію, то адкрыеце для сябе і той факт, што ходзіце тымі ж сцежкамі, на якіх абдумвалі свае творы Янка Купала, Якуб Колас, Змітрок Бядуля, Кузьма Чорны і шмат хто яшчэ з беларускіх пісьменнікаў. Якраз у Доме творчасці быў арыштаваны і надоўга адсюль адпраўлены ў іншага кшталту "адпачынак" -- у сталінскі ГУЛАГ -- Мікола Хведаровіч.

Калі ўжо зайшла гаворка пра гісторыю Мар'інай Горкі, то варта згадаць, што горад з'яўляецца радзімай пісьменніка Анатоля Вольнага. Цікавы паэт, адзін з першых беларускіх кінасцэнарыстаў, ён амаль забыты сёння. У Мар'інай Горцы адказным сакратаром газеты "За калгасы" працаваў паэт Антон Бялевіч, настаўнічаў Янка Непачаловіч. На тэрыторыі Мар'інагорскага саўгаса-тэхнікума доўгі час жыў паэт-байкапісец Захар Бірала.

Калі ваша вандроўка па Мар'інай Горцы супадзе з часам садовай квецені, то вы, і адраса не ведаючы, патрапіце па адной з вуліц ва ўтульны дамок, што некалі належаў бацькам кампазітара Ігара Лучанка. Яны ўжо памерлі. А Ігар Міхайлавіч усё роўна зрэдзьчасу завітвае ў родны бацькоўскі дом. Жывуць у Мар'інай Горцы і бацькі кампазітара Валерыя Іванова. А яшчэ, калі ўжо размова пайшла пра людзей, вядомы горад жэньшэняводам Барысевічам, майстрам па вырабу скрыпак Жукоўскім.

Скульптурныя помнікі. Іх у Мар'інай Горцы даволі шмат. Каля будынка чыгуначнага вакзала -- "самаходка" САУ-100 з дошкай, дзе выбіты імёны загінуўшых. Гэта ў знак таго, што перадавы атрад мотастралковага батальёна пад камандаваннем гвардыі маёра І. Кабякова ўварваўся ў Мар'іну Горку, захапіў пераправу цераз Цітаўку, што дало танкістам магчымасць перабрацца праз раку. А ўвечары — было гэта 2 ліпеня 1944 года — горад ужо вызвалілі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

А яшчэ помнікі Герою Савецкага Саюза Васілю Токараву (у скверы па вуліцы Кастрычніцкай), партызанцы Любе Гайдучонак і іншыя прыкметы гераічнасці гэтай зямлі, гэтага горада.

...Адзін з мясцовых паэтаў занатаваў такі радок: "Калі часам здараецца горка, тады еду я ў Мар'іну Горку". За Мар'інай гарой, хоць час і звёў на нішто яе прыкметы, як за сцяной. Горад, які становіцца любімым і адкрытым, -- заўжды паратунак для душы. Заўжды супакой.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

*ФЕСТЫВАЛІ*

## З ЛЮБОЎЮ ДА БОГА І ПЕСНІ

Два дзесяткі хароў, а таксама салісты з Расіі, Украіны, Галандыі дэманстравалі сваё майстэрства ў Магілёве на міжнародным фестывалі духоўнай музыкі "Магутны Божа". У конкурсе ўдзельнічалі вядомыя спевакі-прафесіяналы з Акадэміі музыкі, абласных філармоній.

Дыплом першай ступені ўручаны Мінскаму хору царквы Божай Маці. Але сапраўднай сенсацыяй стала выступленне харыстаў Свята-Пакроўскага храма з вёскі Чыжэвіны, што размяшчаецца побач з Салігорскам: яны сталі лаўрэатамі прэстыжнага конкурсу, атрымалі дыплом трэцяй ступені. Раней хор Чыжэвіцкай царквы паспяхова гастраляваў па Германіі. Атрыманыя ад немцаў грошы спевакі ахвяравалі на рэканструкцыю свайго храма.

*СМАЧНА ЕСЦІ*

### БУЛЬБЯНЫЯ АЛАДКІ З СЫРАМ

**Кілаграм бульбы вымыць, ababраць, нацерці на буйной тарцы, дабавіць 4 сталовыя лыжкі мукі, 2 яйкі, соль, 1 цыбуліну (нарэзаную) і 100 грамаў цёртага сыру (любога). Перамяшаць і смажыць.**

**Сыр у гэтым рэцэпце можна выкарыстаць і так: калі аладкі падсмажацца з аднаго боку, перавярнуць іх і зверху пакласці лыжку цёртага сыру.**

### ЖЭЛЕ

**1 сталовую лыжку алею змяшаць з 1 сталовай лыжкай мукі. Пагрэць на патэльні, пакуль не пачне пеніцца, зняць з агню і, увесь час памешваючы, паступова ўліць 2 шклянкі гарачага малака. Зноў паставіць на агонь і, памешваючы, давесці да кіпення. Зняць, дабавіць 2 сталовыя лыжкі цукру, астудзіць мінут пяць, убіць яйка і, размяшаўшы, разліць па кубках.**

### МАРКОЎНЫ ТОРТ

**Морква -- 10 штук, 2 яйкі, 1 шклянка смятаны, 2 шклянкі мукі, 300 грамаў варэння, крышку соды.**

**Вараную моркву здрабніць, дабавіць муку, яйкі, смятану, соду. Перамяшаць, пакласці на бляху і выпякаць да гатоўнасці. Затым разрэзаць на 2 часткі, змазаць варэннем, пакласці адну частку на другую, зверху змазаць збітым бялком і паставіць ненадоўга ў духоўку, каб утварылася румяная скарынка.**

### ЦУРА НА КВАСЕ

**200 грамаў жытняга чэрствага хлеба, 1 літр квасу, 2 цыбуліны, 2 сталовыя лыжкі алею, соль.**

**Жытні хлеб нарэзаць кубікамі, цыбуліны дробна парубіць. У квас дабавіць хлеб, цыбулю, алей, соль і адразу падаць на стол.**

### ПІРОГ "ЗАЛІЎНЫЯ ЯБЛЫКІ"

**Сталовая лыжка смятаны, шклянка мукі, шклянка цукру, тры яйкі, сода, соль. Усё перамяшаць, замясіць цеста.**

**Тры-чатыры сярэдніх памераў яблыкі парэзаць на кавалачкі, папярэдне пачысціць іх ад асяродка, выкласці на разагрэтую патэльню, змазаную маслам. Заліць цестам і выпякаць 15-20 мінут.**

### ХАЛАДНІК БЕЛАРУСКІ

**Шчаўе перабраць, прамыць, парэзаць і зварыць у падсоленай вадзе, ахаладзіць. Асобна зварыць бурак (цалкам) з дабаўленнем воцату. Бурак абабраць і нашынкаваць на буйной тарцы. У ахаладжаны адвар са шчаўем пакласці здробнены і расцёрты з соллю і яечнымі жаўткамі зялёную цыбулю, нашынкаваныя свежыя агуркі, буракі, бялок яйка, узбіты кефір. Гатовы халаднік запраўіць смятанай і пасыпаць кропам. Асобна падаць адвараную бульбу.**

**На 2 літры вады -- 200 грамаў шчаўя, 3--4 штукі сярэдніх буракоў, 200 грамаў свежых агуркоў, 1 пучок зялёнай цыбулі, 2 яйкі, 2 шклянкі кефіру, 2 сталовыя лыжкі смятаны, 1 сталовая лыжка цукру, кроп, соль.**



## ПАДАРОЖЖА Ў КУКЛЯНДЗІЮ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Нейкім цудам праз жыццёвыя нягоды ёй удалося пранесці шчасце ўзвышанай любові да жыцця і шчырую патрэбу шчодра дзяліцца гэтым шчасцем з людзьмі. У мінулым настаўнік гісторыі, арганізатар выхаваўчай работы ў школе, яна з захапленнем займалася жывапісам, а выйшаўшы на пенсію, занялася прадпрымальніцкай дзейнасцю. Яе мастацкія вырабы ахвотна куплялі ў прэстыжных мінскіх магазінах турысты з США, Італіі, Германіі, Польшчы. Даніі, Індыі. Яна вырабляе сюжэтныя лялькі -- персанажы твораў У. Шэкспіра, А. Дзюма, А. Пушкіна, М. Лермантава, А. Чэхава, І. Тургенева, опер, казак. Цікавыя яе лялечныя кампазіцыі па казках "Папялушка", "Тысяча і адна ноч", "У краіне гномаў", "Цыганскі табар". Піша вершы, п'есы, казкі, жартаўлівыя пародыі на сюжэты літаратурных твораў. Выступала ў клубе аматараў мастацтваў у Палацы прафсаюзаў, у школах, мастацкіх салонах, на сямейных святах у сяброў і знаёмых з паказам лялечных прадстаўленняў.

"Падарожжа ў чароўную краіну Кукляндзію" -- так назвала яна адно з святаў для дзяцей. У лялечным драматычным тэатры дзеці ўбачылі фрагменты п'ес, у атэлье мод азнаёміліся з мадэлямі лялечнага адзення XV--XIX стагоддзяў, прынялі ўдзел у конкурсе "Міс Кукляндзія", у музычным салоне ўбачылі выступленні лялечных ансамбляў беларускага, рускага, цыганскага, пабывалі ў гасцях у Беласнежкі і сямі Гномаў, у кафэ "Казка" ўдзельнічалі ў конкурсе на лепшую чароўную назву страў. Тут яны частаваліся ласункамі. Усе ўдзельнікі свята атрымалі лялькі ў падарунак.

Л. Санберг не лічыць дастойным хаваць у сабе каштоўныя якасці, якія можна накіраваць на карысць людзям. Больш сотні сваіх мастацкіх вырабаў яна падарыла сябрам, знаёмым, дзецям. У свеце ідэй прыгажосці і дабра яна, як відаць, свой чалавек. Не прыносячы ў ахвяру бясконцай любові да тэатра, літаратуры, жывапісу, наладжвае свята душы, ствараючы свае новыя лялечныя кампазіцыі. Пра сябе піша ў адным з вершаў:

**"Из миража, из ничего,**
**Из сумасбродства своего**
**Творю свое я волшебство.**
**Портреты, куклы --**
**вот напасть,**
**Вдруг обретают**
**плоть и страсть,**
**Я вижу в них и смысл,**
**и связь,**
**В них мой восторг, и пыл,**
**и власть.**

**Нелепо это, безрассудно!**
**Мир образов**
**люблю безумно.**
**В душе страсть**
**к творчеству живет**
**И в мир фантазии зовет.**
**Не спит душа ведь**
**беспробудно.**
**Так разве это**
**безрассудно!.."**

**Ларыса ШЫРШОВА,**
**дырэктар Беларускага дома народных традыцый.**

**НА ЗДЫМКАХ: лялькі, зробленыя рукамі Л. САНБЕРГ.**
**Фота Віктара СТАВЕРА.**



Намеснік рэдактара
Дзіяна ЧАРКАСАВА

ЗАСНАВАЛЬНІК:
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:
220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.

Тэлефоны: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).
Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 877.
Падпісана да друку 19.8. 1996 г.